ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

17 САКАВІКА 1995 г. № 11 (3783) Кошт 200 руб.





## ТАМАРУ НІЖНІКАВУ ВЕДАЮЦЬ, ШАНУЮЦЬ — І ВІНШУЮЦЬ!

Паважаная Тамара Мікалаеўна!

Са святам Вас і з юбілеем!

Для Вас і за Вас ваш любімы тост: "За любоў!"

За любоў — да знакамітай спявачкі, народнай артысткі СССР — зязюленькі, беларускага салаўя, з незабыўным цудоўным голасам серабрыстага тэмбру, які параўноўвалі з чарадзейнай флейтай;

да артысткі, якая стварыла на сцэне ДАВТа Беларусі шчырыя і шматгранныя вобразы: Марынкі, Марфачкі, Ірыны, Віялеты, Разіны, Джыльды, Лейлы, Антаніды, Марфы, Валхавы, Шамаханскай царыцы і іншыя.

За любоў — да прафесара Беларускай акадэміі музыкі, педагога, калегі, якая выхавала шэраг вядомых сёння лаўрэатаў конкурсаў, спявачак, што працуюць у тэатрах і канцэртных арганізацыях Беларусі, у блізкім і далёкім замежжы.

За любоў — да маці, бабулі, а для некаторых і проста Тамары — добрага, чулага, інтэлігентнага чалавека, што жыве з Богам у душы, любіць людзей і любімая імі.

Дай Вам Бог здароўя і шчасця яшчэ на многія гады. Любіце і будзьце любімай!

**Тост для Вас вымавіў прафесар Беларускай акадэміі музыкі Леанід ІВАШКОЎ.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Беларусь для Расіі была і застаецца прывабным, прыцягальным кавалачкам. Сведчанне гэтага — візіты апошніх месяцаў да нас расійскіх палітыкаў і палітыканаў, камерсантаў і банкіраў. Іх цікавіць адно і тое ж — нашыя заводы, нашая зямля і танныя рабочыя рукі, хоць і дзейнічаюць яны рознымі метадамі. Як бывае гэта і ў прыродзе, за арламі пацягнуліся крумкачы, за львамі — шакалы... На мінулым тыдні Беларусь наведаў расійскі сокал, надта падобны да крумкача. Нічога новага мы ад яго не пачулі. Нават ідэя далучэння Расіі да Беларусі была толькі бляклым паўтарэннем ягонай прапановы ў Індыі аб далучэнні Індыі да Бангладэш і Пакістана. Чарговага (чаканага?) скандалу з візіту не атрымалася — гэта добра. Але, тым не менш, не да гонару кіраўнікам нашай незалежнай дзяржавы рабіць выгляд, што нічога не адбываецца, што яны не заўважаюць цынічных выказванняў "сокала" і "сакалятаў" пра нас і нашую краіну.***

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"...Я ніколі не змірuся, калі мая Беларусь стане часткай любое іншае дзяржавы, страціць незалежнасць і свабоду. Я цярплю і буду цярпець колькі трэба і якія заўгодна нястачы, працаваць без сну і адпачынку, але толькі тады, калі буду ўпэўнены ў шчаслівай будучыні свае Радзімы — Беларусі, а значыць, і маіх нашчадкаў. У супрацьлеглым выпадку вы, пан прэзідэнт, можаце падпісваць дагаворы, праводзіць рэферэндумы, парушаць Канстытуцыю, рабіць усё, што прывядзе да знікнення Беларусі (спачатку як дзяржавы, а потым як нацыі), мне застаецца толькі адно — змагацца. Я ёсць, і Вам, у выпадку такіх дзеянняў, давядзецца пераступіць не толькі праз горкі плач нашай інтэлігенцыі і адчайныя крыкі апазіцыі. Вам давядзецца пераступіць і праз маю кроў. Праз кроў сотняў тысяч, мільёнаў такіх, як я. Як растлумачыць Вам, пан прэзідэнт, што ідучы на повадзе тых, хто жыве з імперскімі замашкамі, хто спіць і бачыць далучэнне Беларусі да Расіі, можна лёгка штурхануць усіх нас у прорву грамадзянскай вайны?"

*(З артыкула Здзіслава Вальпяровіча "Я цярплю і буду цярпець...", "Народная газета", 10 сакавіка г. г.).*

## "ЗНАХОДКА" ТЫДНЯ

У мінулую пятніцу кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Л. Сініцын пазнаёміў калектыў упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі з новым начальнікам — Уладзімірам Замяталіным... Прэзідэнт доўга шукаў замену незаменнаму А. Фядуце і знайшоў... сякеру пад лаўкай. Як і многія іншыя крокі прэзідэнта, гэты — невытлумачальны. Гэтаксама невытлумачальная з чыста чалавечых прынцыпаў і згода заняць пасаду У. Замяталіна, які ў свой час, служачы В. Кебічу, рабіў усё, каб А. Лукашэнка не стаў прэзідэнтам.

## УГОДКІ ТЫДНЯ

Пэўна, толькі нашчадкі змогуць аб'ектыўна ацаніць тое, што адбываецца цяпер, і тое, што адбылося дзесяць гадоў таму, калі самы малады з членаў Палітбюро стаў Генеральным сакратаром кампартыі. У тыя гады мы і марыць не маглі, што ўслед за "перабудовай", "галоснасцю" і "дэмакратызацыяй" у наш лексікон гаспадарамі ўвойдуць словы "незалежнасць", "суверэнітэт", "дзяржаўнасць"... Так, ля вытокаў незалежнай Беларусі, як ні парадаксальна гучыць, стаяў Міхаіл Гарбачоў. Толькі і ён дзесяць гадоў таму, пэўна, і не падазраваў пра гэта...

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Тры, толькі тры палітычныя партыі з 31, па звестках, атрыманых БелаПАН у Мінюсце краіны, прайшлі перарэгістрацыю. Яшчэ 7 зарэгістраваны пасля ўступлення ў сілу новага Закона аб палітычных партыях. Мяркуючы па ўсім, да заканчэння перарэгістрацыі — 1 красавіка — неабходныя 500 подпісаў збяруць далёка не ўсе.

## НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка становіцца ўсё больш папулярным у Еўропе. Лідэрам іншых краін давядзецца займаць чаргу ў чаканні афіцыйнага візіту нашага прэзідэнта. Асабліва напружаны атрымліваецца пачатак траўня. На 6—7 траўня А. Лукашэнка запрошаны ў Вялікабрытанію, на 8 — у Францыю, на 9 — у Маскву. Наш прэзідэнт, вядома, не Фігара і не зможа пабываць адразу ўсюды. Якое з запрашэнняў ён прыме — пакуль загадка. Хутчэй за ўсё, ён не захоча "пакрыўдзіць" ветэранаў.

## ТЛУМАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Варта было нашаму прэзідэнту пакінуць на пару дзён дзяржаву, як гэтым зноў пакарысталіся "псеўдарыначнікі": на 50 працэнтаў паднялі цэны на хлебабулачныя і малочныя вырабы. Прэзідэнт, у сваім інтэрв'ю БТ з нагоды дня Канстытуцыі, назваў павышэнне цэн неабгрунтаваным. На ягоную думку, прычын для гэтага не было: долар "стаяў", энерганосьбіты не даражэлі. Зноў "происки" дэмакратаў з ліку былых партакратаў?

## АПЕРАТЫЎНАСЦЬ ТЫДНЯ

Не паспелі беларускія элдэпээраўцы на сваім з'ездзе прыняць змены ў статут партыі, як супрацоўнік Мінюста Беларусі М. Сухінін тут жа ўручыў ім пасведчанне аб рэгістрацыі партыі. Па новым статуце ў ЛДПР з'явіўся ЦК, члены якога займелі права вылучацца па любой акрузе ў Беларусі. Лідэры ЛДПР адразу ж скарысталі гэта і вылучыліся.

## СКАНДАЛ ТЫДНЯ

На памежным пераходзе Брузгі—Кузніца, што на беларуска-польскай мяжы, затрыманы народны дэпутат Беларусі пан Карпаў. Ён хацеў, не маючы дазволу, правезці прыхаваныя ў "Мерседэсе" цыгарэты на 2000 долараў. Дыпламатычны пашпарт дэпутату не дапамог. Польскія газеты змясцілі гэтую навіну на першых палосах.



З нагоды

# ПРА ЛІСТ ЭНГЕЛЬГАРДА І СХОД ВУЧОНЫХ-АГРАРЫЯЎ

Недзе ў годзе пяцьдзесят восьмым ці пяцьдзесят дзевятым галоўны аграном калгаса імя Сталіна Дзяржынскага раёна Браніслаў Станіслававіч Бабіцкі з дапамогай уласнага карэспандэнта "Праўды" па Беларусі апублікаваў у ёй артыкул аб дасягненнях сваёй гаспадаркі на ніве земляробства. Лічыўся па тым часе калгас імя Сталіна, як тады казалі, маяком не толькі ў раёне, а і ў вобласці па ўраджаях збожжа, бульбы, лёну, і была ў тым, усе ведалі, немалая заслуга менавіта галоўнага агранома, чалавека не толькі вопытнага, а яшчэ і мудрага.

Літаральна праз тыдзень пасля з'яўлення артыкула ў "Правде" атрымаў Браніслаў Станіслававіч па пошце ліст з Рыгі. Я тады працаваў у мясцовай райгазеце, з Бабіцкім падтрымліваў сяброўскія адносіны, і той ліст ён мне неяк паказаў. Пісаў яму Энгельгард, з тых самых вядомых у дарэвалюцыйнай Расіі Энгельгардаў, што пакінулі прыкметны след і ў навуцы, і на ніве палітычнай дзейнасці (адзін з іх быў у свой час нават старшынёй Дзяржаўнай думы). Сам аўтар ліста быў фігурай не такой прыкметнай, паводле яго слоў, валодаў маёнткам у Мсціслаўскім павеце Магілёўскай губерні са ста гектарамі зямлі. Пасля рэвалюцыі ён эміграваў у Латвію, адкуль паходзілі яго продкі, да 1940 года жыў у Рызе, а калі прыбалтыйскія краіны Сталін далучыў да сваёй імперыі, быў арыштаваны і атрымаў 10 гадоў лагераў.

Дык вось, прачытаўшы ў "Правде" артыкул Бабіцкага, былы памешчык, па адукацыі таксама аграном, вырашыў яму напісаць і расказаць, як некалі ён гаспадарыў на сваёй зямлі. Амаль увесь ліст займала апісанне агратэхнічных прыёмаў, якія ён ужываў, колькі чаго вырошчваў, як плаціў наёмным рабочым. І выходзіла, што літаральна па ўсіх паказчыках маёнтак Энгельгарда нашмат пераўзыходзіў калгас імя Сталіна, хоць і пралегла паміж імі адлегласць у часе ледзь не ў пяцьдзесят гадоў. "Ну, як вам усё гэта?" — спытаў я ў Бабіцкага, вяртаючы яму ліст. Скоса зірнуўшы на мяне, ён пацiснуў плячыма і нягучна вымавіў: "А што ты хочаш, — уласнік, сам сабе гаспадар. Паглядзеў бы я, як бы ён пакруціўся сёння..."

Гэтая гісторыя ўспомнілася мне днямі на гадавым агульным сходзе Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь, што адбыўся ў канферэнц-зале Міністэрства сельгасхарчу. Чаму ўспомнілася, скажу далей. А пакуль што патлумачу, што створана была гэтая акадэмія тры гады назад паводле пастановы Саўміна "ў мэтах удасканалення навуковага забеспячэння аграпрамысловага комплексу рэспублікі, развіцця фундаментальных і прыкладных даследаванняў, забеспячэння навукова-тэхнічнага прагрэсу ў сельскай гаспадарцы і перапрацоўчых галінах". Дадамо да гэтага, што ў склад акадэміі ўваходзяць 13 сапраўдных членаў (акадэмікаў) і 21 член-карэспандэнт, 16 навукова-даследчых інстытутаў, 11 доследных станцый і аддзелаў, 53 эксперыментальныя базы. Акадэмія мае тры вопытныя заводы, аб'ядноўвае навукоўцаў пяці вышэйшых навучальных устаноў аграрнага профілю. Ва ўсёй яе сістэме працуе 150 дактароў і 1570 кандыдатаў навук.

Значная частка іх, як я зразумеў, была сярод 227 чалавек, зарэгістраваных, паводле слоў прэзідэнта акадэміі В.Антанюка, як удзельнікі сходу. Дадамо яшчэ, што сярод запрошаных былі два міністры — сельгасхарчу В.Лявонаў і прыродных рэсурсаў і акаляючага асяроддзя М.Русы, не лічачы гасцей з Расійскай Федэрацыі, Літвы і Украіны.

Чаму ж прыгадаліся мне сярод гэтай паважанай публікі ўжо далёкае па часе пісьмо Энгельгарда і звязаны з ім час? Пачну з таго, што сход быў хоць і вучоны, але як дзве кроплі вады нагадваў, здаецца, ужо сплыўшыя ў "лету" партыйна-гаспадарчыя актывы, з іх абавязковым дакладам-справаздачай і яго абмеркаваннем, у час якога выступоўцы аддаюць абавязковую даніну "цікаваму і змястоўнаму дакладу", зробленаму вялікім начальнікам (у дадзеным выпадку прэзідэнтам акадэміі).

Тым не менш, з пачцівасцю глядзеў на вучоных-аграрыяў, якія адзін за адным уздымаліся на трыбуну. Што ні кажыце, а звыклы ў навуковым асяроддзі выраз — кабінетны вучоны — для іх паняцце досыць абстрактнае. Іх "кабінет" — поле, ферма ў любую пару года. Быў нават гатовы парадавацца прагучаўшым у дакладзе лічбам і фактам, што павінны былі засведчыць немалыя дасягненні беларускай аграрнай навукі. Гэта дзесяткі выведзеных і раянаваных у краіне сельскагаспадарчых культур, новыя папуляцыі кароў з фантастычнымі надоямі, свіней з такімі ж фантастычнымі прывагамі, распрацаваныя новыя віды ўгнаенняў, сродкаў ахове раслін, сельскагаспадарчай тэхнікі і г.д.

Але, але... Выкажу ўласную думку, думку чалавека, які амаль паўтара дзесятка гадоў папрацаваў на аграрнай ніве хай і ў якасці журналіста. Дык вось, не было ў савецкія часы навукі больш коснай, казённай, больш паслухмянай "партыі і ўраду", адданай прынцыпу "чаго пажадаеце", чым аграрная. Нагадаем тую ж лысенкаўшчыну, бяздумную меліярацыю, кукурузную эпапею Хрушчова і яго паход супраць травапольнай сістэмы земляробства, ссяленне ўжо ў пасляхрушчоўскі час дробных вёсак і іншыя партыйныя навацыі, кожны раз асвячоныя імёнамі самых вядомых вучоных-аграрыяў.

Успомніліся мне Энгельгард і мудры Бабіцкі яшчэ таму, што мала не ў кожным выступленні на вучоным сходзе стаяў вавілонскі плач па гадах камуністычнага ўладарання, калі, як казаў Райкін, і зімы былі як зімы, і паводкі як паводкі... Запомніўся такі пасаж аднаго з выступоўцаў. Павярнуўшыся да міністра В.Лявонава, што сядзеў у прэзідыуме, ён з пафасам усклікнуў: "Не забыць, якой увагай мы, навукоўцы, былі абкружаны на Магілёўшчыне, калі вы, Васіль Севасцьянавіч, працавалі там першым сакратаром абкома партыі".

І яшчэ. Ні ў дакладзе, ні ў выступленнях не прагучала слова — фермер. Быццам такога паняцця ў нас не існуе. Быццам не існуе пякучай праблемы, звязанай з правядзеннем аграрных рэформ, у прыватнасці, набыццём зямлі ў прыватную ўласнасць. і да т.п.

Пра што б ні гаварылі ўдзельнікі сходу, якія б бакі сваёй дзейнасці ні закранулі, два "чароўныя" словы пры гэтым абавязкова прысутнічалі: калгасы і саўгасы. І я зразумеў, што пры іншым парадку ў аграрным сектары краіны яны сябе не мысляць.

Вядома, калі б я паставіў перад сабой мэту пісаць проста справаздачу з гэтага сходу, я б не абмінуў прыведзеныя ў многіх выступленнях факты сапраўды жабрацкага існавання нашай аграрнай навукі, з яе мізэрнай зарплатай навукоўцаў, адсутнасцю сродкаў на правядзенне доследных работ і г.д. Але ўсё пачутае і ўбачанае на сходзе ў свядомасці выкрышталізавалася паіншаму. Так і напісалася.

**М.ЗАМСКІ**

Памяркуем

# ЯК ДОБРА, ШТО НАС НЕ ВЕДАЮЦЬ...

У Заходняй Еўропе пра Беларусь, пра яе існаванне на карце і ў свеце ведаюць хіба што ў Польшчы. Крыху далей ад заходняй мяжы ўжо могуць быць пытанні: Беларусь? А дзе яна? Штосьці не чуў пра такую...

Дзіўнага тут няма. Нованароджаная, можна сказаць, дзяржава. Ды і нарадзілася неяк мімаволі, заўчасна — як дзіця ў сем месяцаў. Не то дзяржаўнае ўтварэнне, не то проста лапік сушы, адкрыты ўсім вятрам. Рука тузанулася напісаць — "і ўплывам", ды спынілася. На нас уплывае толькі вялізнае, дужае, пагрозлівае... Па прынцыпе кампенсацыі.

Нашай вядомасці не спрыяюць ні Вялікае княства Літоўскае, ні нават Чарнобыль. Мо і праўда, як сказана было на адной вузкай навуковай пасядзелцы, варта рассылаць у бібліятэкі розных краін даведнікі пра гэтую загадкавую Белую Русь?

Гэтая прыкрая невядомасць паспела зрабіцца за апошнія гады ледзьве не нацыянальным комплексам. Не людзі мы, ці што? І пасольствы свае паўсюль маем, і дзелавыя сувязі, і грамадскія кантакты, а для шырокіх еўрапейскіх мас як быццам нас няма ў прыродзе — ні нашай слаўнай інтэрнацыянальнай гісторыі, ні нашых рускіх асветнікаў, ні нашых польскіх рэвалюцыянераў — нічога!

Толькі не думайце, што я ўсур'ёз распачну тут лямант і "сотрясение воздухов". Тады для чаго я ўсё гэта пішу? Аказалася, што ў адсутнасці розгаласу і недахопе інфармацыі пра нашу рэспубліку ёсць свае станоўчыя бакі. Несумненныя нават плюсы.

Возьмем, да прыкладу, афіцыйны візіт прэзідэнта Беларусі ў Бельгію разам з прадстаўнічай камандай. Чысценькая, сімпатычная, кажуць, краіна. Досыць заможная, і галоўнае — без маніі велічы. І нельга сказаць, што не абазнаная ў навейшай гісторыі. Там нават ведаюць, якія ахвяры панесла БССР у мінулай вайне. (А.Лукашэнка ў Брусэлі абачліва не назваў яе Вялікай Айчыннай. Правільна навучылі!)

Дык вось: крыху прастадушнай, патрыярхальнай Бельгіі з яе каралём Беларусь была прадстаўлена як краіна, якая ідзе па шляху рэформаў. Хто і ў якую, скажыце, лупу ўгледзіць у нас тыя рэформы?!

Рабочыя большасці прадпрыемстваў знаходзяцца практычна ў бестэрміновым адпачынку. Ну, выйдуць на пару тыдняў — і зноў "загараць"... Пры гэтым атрымліваюць калі не зарплату, то нейкі пражытачны мінімум. Пералавілі рыбу ў прыгарадах. Павыбівалі ўсе дываны і дарожкі. У дзённіках нашчадкаў параспісваліся. Амаль ідылія. Толькі ў ідыліі ёсць сваё падвойнае дно: улады проста баяцца пралетарыяту, вось і кідаюць "костку". "Рынак" у нас толькі для рахманых бюджэтнікаў, якія забастоўкі не аб'явяць і ў бунт не ўкінуцца.

За апошнія гады не закрыўся, не спынены ніводзін нерэнтабельны завод, які выпускае жалеззе для суседзяў ці ўвогуле непатрэбшчыну. А ці даводзілася вам чуць, што пераабсталявана, перапрафілявана тое ці іншае прадпрыемства? Што новыя фабрыкі пачалі будавацца — для вырабу дзіцячага, скажам, харчавання ці яшчэ

Пошта

# СІЛА ЁСЦЬ — РОЗУМУ НЕ ТРЭБА?

Усё болей актывізуюцца палітычныя партыі і рухі напярэдадні выбараў. Асабліва — партыі правага накірунку. Вось і Беларуская партыя свабоды падала голас са старонак аднаўленай "нацыяналістычнай" газеты "Za volu". Аднак, здаецца, занадта многа тэмпераменту ў гэтым голасе. Нават пагроза гучыць у словах лідэра БПС С.Высоцкага.

Газета (N 1 за 1995 г.) надрукавала артыкул С.Высоцкага "Чаму мы не з БНФ, альбо Да чаго прыводзіць талерантнасць". Уражвае пазіцыя БПС у дачыненні да плюралізму думак на Беларусі. Але найбольш — стаўленне БПС да БНФ.

Сп.Высоцкі ад імя БПС абвінавачвае Фронт у згодніцтве і кампрамісах — і не прапануе нічога, акрамя сілавога ўздзеяння на палітычных апанентаў. Але гэта ўжо было ў часы сумнавядомай КПСС-КПБ. Прыгадваючы падзеі 3 ліпеня 1994 г., БПС папракае Фронт у бяздзейнасці. Цікава было б паглядзець на сяброў БПС, апыніся яны ў той момант на пляцы Перамогі, — як бы яны рэагавалі на ўсялякія правакацыі?

Здзіўляе і зневажальнае стаўленне лідэраў БПС да гісторыі і культуры Беларусі. Складаецца ўражанне, што БПС жыве толькі сённяшнім днём. А ці варта забывацца на тое, што ў народа, які не мае мінулага, які грэбуе сваёй культурай, сваёй гістарычнай спадчынай, няма і будучага?

Заяўляючы пра "павольную талерантнасць" БНФ і заклікі Фронту да барацьбы з дапамогаю законных сродкаў, БПС зноўку абвінавачвае яго ў "беларускай памяркоўнасці" і — не прапануе нічога, апроч сілы.

А вось што гаворыць С.Высоцкі пра сацыяльную скіраванасць Фронту. Цытую з артыкула: "Усім малазабяспечаным і г.д. БНФ абяцае гарантыі, пенсіі, датацыі. За чый кошт гэта будзе рабіцца?.. Дзіркі ў бюджэце будуць залатвацца з кішэні маладых працаўнікоў, беларускіх рабочых, бізнесменаў". А што ж прапануе БПС? "Мы не будзем займацца аніякай сацыяльнай дэмагогіяй. Тыя, хто будуць працаваць, будуць добра жыць. Гультаям, злодзеям... і г.д. месца не будзе". Відаць, сп.Высоцкі нічога не чытаў і не чуў пра "сродкі залатвання дзірак у бюджэце", якія прапануе БНФ. Альбо лідэр БПС не ўяўляе сабе геапалітычнага становішча Рэспублікі Беларусь. І зноўку замест абдуманага падыходу да вырашэння спрэчных пытанняў прапануе сілавое ўздзеянне.

І апошняе, але, бадай, самае жахлівае ў словах сп.С.Высоцкага. Цытую: "Беларуская Партыя Свабоды стаіць за захаванне за Рэспублікай Беларусь статуса моцнае ядзернае дзяржавы. Жалезна гарантаваць незалежнасць нашай Бацькаўшчыне... можна будзе толькі калі ў нас будзе ядзерная зброя". Варта было б шаноўнаму сп.Высоцкаму зазірнуць у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці, у артыкул 18, а пасля — у артыкул 52, і сур'ёзна падумаць пра пазіцыю БПС ва ўнутранай і знешняй палітыцы. Да таго ж, мімаволі ўзнікае такая паралель: "жалезна гарантаваць" — "жалезны парадак" — "жалезная заслона..."

Як бачым, Беларуская партыя свабоды для вырашэння ўсіх дзяржаўных пытанняў прапануе сілу. Па-першае, кажуць і так: сіла ёсць — розуму не трэба. Па-другое, у мяне, скажам, выклікае сумнеў існаванне на Беларусі такой сілы. Але нават калі яна і існуе — крый Божа прыйсці ёй да ўлады! Вядома, які рэзананс узнікне на Беларусі дый ва ўсім свеце наогул. Да таго ж, гісторыя яшчэ не ведала выпадкаў, калі б свабода забяспечвалася сілаю. І зусім іншая рэч, калі ў дзеянне ўступае другая сіла, сіла розуму, сіла інтэлекту. Супраць гэтай сілы ніхто і нішто не здольны ўстаяць. Але ці шмат на Беларусі маладых палітыкаў, якія валодаюць такою сілаю?

Дэмакратам, кшталту БПС, "правага рэваншу" і іншых, хочацца параіць зазірнуць у тлумачальны слоўнік беларускай мовы і прачытаць там азначэнні слоў "нацыяналізм", "шавінізм", "фашызм". І не толькі прачытаць, а заўважыць і зразумець розніцу паміж гэтымі словамі. Не лішне было б ім уважліва прачытаць і Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Глядзіш, і павагі да законаў пабольшала б. Бо якраз гэтага і не хапае зараз некаторым нашым палітыкам.

**Тарас КУТНЯК,**
**намеснік старшыні патрыятычнага аб'яднання "Нацыянальнае дзеянне"**

---

чагосьці... Адзінкавыя прыклады.

Можа, гэта ў нас завуць рэформай?

У гастраномах, з якіх многія сталі акцыянернымі прадпрыемствамі, частавата ляжыць непрывабнага колеру і паху мяса. Яго прасцей спісаць і выкінуць на сметнік, чым скінуць цану і збыць пакупнікам.

Гандаль не кінуўся ў вёску закупляць прадукты — свініну, цяляціну, малако, бульбу, садавіну. — усё, што там з радасцю збылі б. Нікому гэта непатрэбна, бо нявыгадна. Куды выгадней "наварваць" на іншым: збываць дзяржаўныя тавары оптам на перапродаж, у асноўным на блізкае замежжа.

Можа, гэта і ёсць рэформа?

...Ды што я — усё пра будзённае, пабытавае. Дзяржаўныя мужы, яны і мысляць па-дзяржаўнаму. Што ім цэны, зарплаты, нашы дробныя хатнія праблемы?.. Закранём момант сур'ёзны — прыватызацыю. На сённяшні дзень для яе няма заканадаўчай базы як для айчынных вытворцаў, так і для замежных інвестараў. Праграма неадкладных мер, заяўленая прэзідэнтам, гэта сімбіёз рынкавых паняццяў і старых, адміністрацыйных метадаў кіравання эканомікай. А можа, тармазнуўшы на эканамічнай, нашы ўлады праводзяць ідэалагічныя рэформы: мяняюць саму сістэму кіравання, чысцяць кадры ўсіх узроўняў, тых жа славутых карупцыянераў выцягнулі за вушка на сонейка?

Ды не, усё тое самае: непатрэбныя саветы, прадажны суд, ранейшыя кіраўнікі, якія даўно маральна збанкрутавалі... Што ж да новых, у прэзідэнцкай камандзе, то Аляксандр Рыгоравіч такі магутны знаўца людзей... А колькі пагрозных слоў мы чулі, колькі клятвенных абяцанняў — ужо з заўтрашняй раніцы перамяніць жыццё да лепшага!

Тое-сёе сапраўды перамянілася. Па рэдакцыях пайшлі беларускамоўныя жабракі. Штосьці навенькае. Гэта, мабыць, яна, доўгачаканая...

Ах, рэформа! Казка пра белага бычка. Вольная фантазія для Еўропы і Еўрапейскага саюза з мэтай выцыганьвання крэдытаў. Зрэшты, гэта рэч у свеце звычайная. Сама Расія заігрывае з Міжнародным валютным фондам. Крэдыты для Беларусі такая ж актуальная сёння рэч, як падачка для якогась бедалагі-пенсіянера. З багатых па нітцы... і г.д. Цяпер вы ведаеце, як добра быць "terra inkognita" для высокаразвітых краін?

Я не збіраюся інкрымінаваць прэзідэнту свядомую хлусню на міжнародным узроўні. Ён заўжды шчыра верыць у тое, што гаворыць сам і ў чым пераконваюць яго. Ён інстынктыўна знайшоў самы надзейны спосаб, як займець падтрымку і дапамогу, як здзейсніць "прарыў у Еўропу". Будзе ведаць бабуля-Бельгія, як трымаць паслоў па сумяшчальніцтве...

**Г.К.**

---

Алесь ЧОБАТ

# БЫЎ ЧАС, БЫЎ МАЙ, БЫЛО МЯСТЭЧКА...

## ПРАВІНЦЫЙНЫ АПОВЯД

— Толькі кампраміс!

— Толькі капітуляцыя!

Валодзька і я пахмурна пагледзелі адзін на аднаго, цяжка ўздыхнулі, стукнуліся чаркамі і выпілі. Быў май дзевяностага года. Над Нёманам буяла вясна, па-над стрэхамі стракаталі баявыя верталёты — час быў змрочны, людзі жылі ў трывозе, да ўлады рваліся дэмакраты.

— Толькі капітуляцыя! — я ўпёрся, як баран у плот. — Усіх слабакоў і чыстых адраджэнцаў — вон к чарцям! А калі хто перадумае — няхай пакаецца!

— Слухай, ты! — Валодзька наляцеў на той самы плот мне насустрач. — Цяпер так нічога не зробіш! Людзі не пойдуць. Цяпер у кожнага свае думкі, хай сабе і дурныя. Толькі кампраміс!

Так пачыналася новая дэмакратычная партыя. Кляпалі яе местачковыя хлопцы, каб накідаць у шыю камунякам — як тыя накідалі хлопцам зімой на выбарах. Але ж і добра далі! А я ўжо дастаў, як той конь — таму цяпер дамагаўся парадку, грошай і дысцыпліны, каб камар носа не прасунуў! Валодзька ж выйшаў менш абсінячаны на тым месцы, каторага людзі не бачаць, а таму яшчэ нешта плёў пра свабоду дыскусій ды ўнутрыпартыйную дэмакратыю. Чыстыя Ленін з Пляханавым, выданне другое, неразрэзанае! Быў час, быў май, было мястэчка...

— Паўтараецца семнаццаты, — бубніў я далей. — Гэтак званая перабудова правалілася з трэскам, няма нават асноўных дэмакратычных свабодаў. А таму партыя мае называцца Дэмакратычнай і на першую чаргу высунуць задачы дэмакратызацыі і незалежнасці!

Гэты тэзіс ды яшчэ пад чарку і яешню з салам Валодзьку амаль пераканаў.

— Можа, лепш Сацыял-Дэмакратычнай? — удакладніў ён. — Навошта людзям тыя свабоды? Людзі хочуць жыць лепей, а рабіць меней!

— На якія шышы? — здзівіўся я. — Што, падзелім на акцыі збанкрутаваўшыя гіганты-каміны і параздаём народу?!

— А народу не трэба казаць, што тут усе збанкрутавалі, потым ён сам зразумее, — цынічна адказаў Валодзька, як быццам палітыкаваў з малалецтва. Пра што я і ўкалоў яму ў вока.

— А ты што рабіў? — пакрыўдзіўся ён. — Цябе да чаго рыхтавалі ў піянерах і камсамольцах?!

— Ладна, — пайшоў я на кампраміс. — Але ніякага сацыялізму! Чыста дэмакратычная партыя.

— Ладна, — пайшоў ён у той самы бок. — Але з акцэнтам на сацыяльную абарону народа ды свабоду дыскусій і фракцый!

— З нашымі людзьмі гэта ржою не зарасце, — паабяцаў я.

— Ну! — Валодзька разліў рэшткі, перавярнуў над сваёй чаркай пляшку і пастукаў кулаком у донца, страсаючы да апошняй кроплі, бо ўжо падступаў эканамічны крызіс. — За наша безнадзейнае прадпрыемства!

Гулялі не ў карты і не ў жарты — такіх партый, куды камуністаў не бралі, тады нават у Мінску не было. Прыйшоў я з канспірацыйнай забягалаўкі дахаты, зачыніўся на ўсе замкі, занавесіўся на ўсе фіранкі, запусціў супраць шпіёнаў тэлевізар на ўсю катушку і пачаў убіваць у пішучую машынку новы катэхізіс: "Дэмакратычная Партыя Беларусі ёсць палітычная партыя парляманцкага тыпу...". Недзе пяром ад рукі гэтаксама рыпеў Валодзька, а раніцай на службе пераграваў казённы камп'ютэр. Спыніць дэмакратыю было ўжо немагчыма — хіба што сама, як тая няшчасная бядняцкая кабыла, звалілася б на паўдарогі да цывілізаванага свету ды здохла!

Сварыліся мы ўжо другі месяц. На першай канспірацыйнай сустрэчы было чалавек пяць, але нехта здрадзіў — і на другую прывалакліся ўжо дванаццаць. А дзе мы толькі ні збіраліся! Лепей не ўспамінаць...

Як пачынаючы рэвалюцыянер-народнік, быў я ахвярай бальшавіцкіх рэпрэсій трывожнага канца васьмідзесятых, бамжаваў, не меў нічога да работы і таму пра партыю здагадаўся першым — тут з песні слова не выкінеш!

"Навошта чакаць тых мінскіх? — думаў я. — Ну, далучышся да каго-небудзь, прышлюць табе кучу бланкаў на ўсялякія справаздачы, за грашовыя складкі ды нядоімкі вечна даставаць будуць, растраты пойдуць, рэвізіі... Ды гары яно гарам! А тут — сам сабе гаспадар! Як той казаў, роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі: забіць-то зайца не забілі, але ж, брат, гуку нарабілі!..".

І тут духі продкаў знак падалі, бо прысніўся мне сам Юзэф Пілсудскі, які быў людскі. І хоць падкінуў я ранкам на долю манетку, але нават не паглядзеў, правым ці ліхім бокам упала. Жыццёвае мора слабых не любіць! Праўда, аказалася, што не моцных баяцца трэба, а занадта разумных, бо з тых дванаццаці местачковых апосталаў-самазванцаў кожны быў разумнейшы за другога, а як ужо нёс, дык нёс — ад душы! Не было рады!!!

"Чорт з імі! — плюнуў я нарэшце на сваім падворку. — За каго там прагаласуюць — яшчэ пабачым. Абы людзей больш прывялі...".



Гэтаксама на сваім падворку плюнуў Валодзька. А паколькі астатнія аказаліся ідэолагамі толькі гаварлівымі, а мы з Валодзькам яшчэ і пісьменнымі, дык нам і прыйшлося, па-інтэлігентнаму кажучы, адзін другому гузікі з мясам выдзіраць ды чужых прыхільнікаў перавярбоўваць, а сваіх навербаваных пільнаваць, каб за недаглядам не парасцягвалі.

А што вы думаеце? Нават у святы дзень Устаноўчага Кангрэса, калі ранкам на явачнай кватэры я хуценька падмогу з правінцыі ахмураў, лепшы Валодзькаў балбатун Антанін мала сілай туды не рваўся, каб галасы рашаючыя перахапіць! Ледзь бервяном дзверы не вывалілі — от вам, дзяўчаткі ад семнаццаці да пяцідзесяці васьмі, і свабода фракцый!

І вот — Кангрэс! Вот Палац Хімікаў, дзе прафсаюзнічаў тады сімпатык нашай славутай партыі (не блытаць з КПСС), вот буфет з півам і цыгарэтамі, хоць вясной дзевяностага цыгарэтаў нават у Гродне было не купіць; вот стол, крэслы, дзяўчаты, аркестр, рэгістрацыя; вот ганаровыя госці з цэлага, можна сказаць, свету — з Польшчы, напрыклад... Ну, таму што як дзе-небудзь якія-небудзь людзі жывуць, дык там ужо і Польшча, калі нашых "крэсовых" палякаў паслухаць... А вот у дзвярах спачуваючыя партыйнай справе амбалістыя хлопцы з нацыянальнымі алаяскамі нават у знаёмых так мандаты трасуць, што няшчасную прэсу местачковую ды цікаўных упаўнаважаных ад працоўных калектываў зусім перапалохалі: наконт двух назіральнікаў з гаркама — самі ведаеце чыйго — прыйшлося нават кароценькую рабочую нараду проста ў фае нарадзіць.

Эх, як усё пачыналася! А нейкі новаахрышчаны дэмакрат гадкоў васьмідзесяці пяці ледзь ногі цягаў, але абышоў ці не ўсіх ды кожнага павіншаваў — дажылі, кажа, дзетачкі, і ўсё такое!..

Смех смехам, але разам з прошанымі ды няпрошанымі гасцямі, тутэйшай прэсай і назіральнікамі ад нейкіх міфічных ледзь не з таго свету арганізацый народу панапіхвалася БАГАТА, як некалі на палешуцкі манер пісаў Сярожка Астраўцоў, калі яшчэ рабіў як чалавек, а не заграбаў шуфелем грошы на Радыё Свабода пад псеўданімам літаратурным.

А Валодзька хі-ітры! Сам ціха сядзіць, а хлопцы яго з "ініцыятыўнай групы" — як быццам гэта партыя імі ўжо прыватызавана! — галоднымі кнурамі пруць да карыта ў прэзідыум. Але і мы не дурні!

— Я ат рабочых! — крычыць з месца такі Лайдакоў, у якога твар перакручаны ці ад гуты, ці ад мартэна, ці нават ад дыспансера.

— Ня нада нам празідзімумав эціх! Папрывыкалі, панімаіш...

— Правільна! — крычаць тут усім класам. То значыць — усім рабочым класам. — Ня нада!

Ну, давайце аднаго вядучага... Ну, кажуць, калі аднаго — тады нічога, тады ладна. І тут мая ультранацыяналістычная групоўка выстаўляе барадатага Мікалаевіча — не тое што "русскоязычного", а самага натуральнага маскаля! Валодзька з намеснікам трывожна пераглядаюцца — бо, як справы ў нашай незалежніцкай партыі з той нацыянальнай свядомасцю, не мне ім гаварыць! Як кругом — так і ў нас! І дурню ясна, за каго прагаласуюць!

— Трэба па-беларуску размаўляць, — бярэцца-такі ратаваць і пярэчыць сухенькі дзядок. — Шануйма родную мову...

— Камуністы толька таво і ждуць, штобы нас падзяліць, как нацыяналісты хацяць! — перабівае яго Лайдакоў.

— Ня нада... Я ат рабочых, — дадае ён крыху няпэўна. Таму што падскочыць-то падскочыў, нават другі раз падскочыў, а так нічога і не сказаў, хоць і вываліў запас цэлага жыцця. Але Бог з ім, бо справа вырашана! Мікалаевіч залазіць на сцэну, хукае ў мікрафон і абвяшчае разбор палётаў адкрытым.

— Ну, что же! — рыхтык Гарбачоў гаворыць вядучы. — Надо, наверное, гостям дать слово для разогрева, как?

— Так! — зноў крыкнулі дружна і зашыкалі на хлопца з Валодзькавай кампаніі, які нешта спрабаваў сказаць пра працэдуру і рэгламент — за што яго абазвалі адпаведна здраднікам, камуністам і наменклатурай... Які рэгламент?! То ж шырокі народны рух! Масы! Людзі ўжо да ручкі дайшлі, а яны са сваім рэгламентам, маць вашу!

*(Працяг на стар. 14-15)*

КОЖНАЯ гістарычная падзея з часам абрастае міфамі. Часцей за ўсё — ва ўгоду палітычным амбіцыям урадаў і правячых партый. У савецкі час гэтых міфаў створана безліч. Вялікая Айчынная вайна не была тут выключэннем.

Як і ва ўсякім міфе, праўда тут змешана з хлуснёй, вымыслам, якія не заўсёды проста выкрыць. Тым больш, што за доўгія гады існавання многія міфы глыбока ўвайшлі ў народную свядомасць.

Адным з такіх міфаў з'яўляецца бытуючая дагэтуль легенда аб незвычайным адзінстве савецкага народа перад вайной, аб мудрым кіраўніцтве правадыра І. Сталіна, што і паслужыла зарукай перамогі. Сёння мы ўсё больш пачынаем разумець, што выйграць вайну з фашызмам удалося хутчэй не "дзякуючы", а "насуперак" таму "кіраўніцтву". Іначай цяжка растлумачыць многія факты і падзеі таго часу.

# МЫ ЗА ЦАНОЙ НЕ ПАСТАЯЛІ?

І той жа калгасны паўпрыгонны мужык, той жа хлапчук-інтэлігент, які страціў бацькоў у 37-м, пачалі адважна ваяваць і гераічна паміраць на палях баёў — не за Сталіна, вядома, і не за савецкую ўладу, а за Айчыну, за сябе, за сваіх блізкіх, а таму і выйгралі вайну, нягледзячы, часам, на бяздарнасць камандавання, што прывяла да шматмільённых ахвяр, і перамаглі насуперак, а не дзякуючы бесчалавечнай сістэме прымусу і тэрору.

"Мы за цаной не пастаім!" — гэта не толькі словы з песні Б. Акуджавы, гэта метад вядзення вайны. І сапраўды, за дарэмныя, неапраўданыя ахвяры ў нас не судзілі нікога — народу шмат, чаго там разменьвацца на дробязі, сотняй тысяч больш, сотняй тысяч меней... Адсюль і тыя непапраўныя, як цяпер ужо ясна, страты. Гінулі лепшыя, загінуў, можна сказаць без перабольшання, цвет нацыі. Да ахвяр вайны варта дадаць яшчэ ахвяры ваенных трыбуналаў, асобых аддзелаў, жорсткіх і бесчалавечных загадаў Вярхоўнага, накшталт загада N227 аб увядзенні штрафных падраздзяленняў і загараджальных атрадаў!

Праўда ніколі не ўпісвалася ў ідэалогію таго часу. Толькі нядаўна мы пачалі даведвацца, якую цану заплацілі за перамогу — некалькі дзесяткаў жыццяў за жыццё аднаго ворага.

Шмат "белых плямаў" і на карце партызанскага руху. Яго сутнасць нашмат складаней і заблытаней, чым мы ўяўляем гэта сёння. Без усялякага сумнення, партызаны мужна змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і наносілі ім даволі адчувальныя страты. Але не будзем забывацца, што ў партызанскіх атрадах былі свае "асобыя аддзелы", якія ўзначальвалі мясцовыя або прысланыя з "вялікай зямлі" чэкісты. Яны дзейнічалі гэтак жа, як дзейнічалі ў 37-м годзе, не разбіраючы ні правых, ні вінаватых...

Магчыма, у недалёкай будучыні мы ўсё-такі дойдзем і да поўнай праўды пра мінулую вайну. І гэта будзе нашай сапраўднай перамогай, а не толькі святам "са слязамі на вачах".

Дакументы, якія я прапаную ўвазе "ЛіМа", амаль скрозь пазначаны грыфам "Зусім сакрэтна". Дагэтуль яны былі схаваныя ад людскога вока ў "спецхранах".

**І. КУЗНЯЦОЎ,**

**кандыдат гістарычных навук**

## ДЫРЭКТЫВА

НАРКОМА АБАРОНЫ СССР

Ваенным саветам ЛВА, ПрыбВА, ЗахВА, КАВА, АдВА

Копія: Народнаму камісару ВМФ

1. На працягу 22-23.6. 41 г. магчымы раптоўны напад немцаў на франтах ЛВА, ПрыбВА, ЗахВА, КАВА, АдВА. Напад можа пачацца з правакацыйных дзеянняў.

2. Задача нашых войск — не паддавацца ні на якія правакацыйныя дзеянні, якія могуць выклікаць буйныя ўскладненні. Адначасова войскам Ленінградскай, Прыбалтыйскай, Заходняй, Кіеўскай і Адэскай ваенных акруг быць у поўнай баявой гатоўнасці, сустрэць магчымы раптоўны ўдар немцаў і іх саюзнікаў.

3. Загадваю:

а) на працягу ночы на 22.6.41 г. скрытна заняць агнявыя кропкі ўмацаваных раёнаў на дзяржаўнай граніцы;

б) на досвітку 22.6.41 г. раззасяродзіць па палявых аэрадромах усю авіяцыю, у тым ліку і вайсковую, старанна яе замаскіраваць;

в) усе часці прывесці ў баявую гатоўнасць. Войскі трымаць раззасяроджана і замаскіравана;

г) супрацьпаветраную абарону прывесці ў баявую гатоўнасць без дадатковага пад'ёму прыпіснога саставу. Падрыхтаваць усе мерапрыемствы па зацямненні гарадоў і аб'ектаў;

д) ніякіх іншых мерапрыемстваў без асаблівага распараджэння не праводзіць.

21.6.41 г. Цімашэнка. Жукаў.

*Заўвага — перадача дырэктывы ў акругі была закончана ў 00. 30 хвілін 22.6.41 г. — І. К.*

## АБ СТАНОВІШЧЫ

НА ФРОНЦЕ БРЭСТ-КОБРЫНСКАГА НАПРАМКУ

Заліска сакратара Брэсцкага абкома КП (б) Беларусі М. Н. Тупіцына ў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б

Зусім сакрэтна

Асобая папка

25 чэрвеня 1941 г.

Брэсцкі абком КП(б)Б лічыць неабходным інфармаваць Вас аб складаным становішчы на фронце Брэст-Кобрынскага напрамку.

Абком КП(б)Б лічыць, што кіраўніцтва 4 Арміі аказалася непадрыхтаваным арганізаваць і кіраваць ваеннымі дзеяннямі. Гэта пацвярджаецца цэлым шэрагам фактаў, у прыватнасці:

Уварванне нямецкіх войск на нашу тэрыторыю адбылося так лёгка таму, што ніводная часць і злучэнне не былі гатовы прыняць бой, таму вымушаны былі альбо ў беспарадку адступаць, альбо загінуць. У такім становішчы апынуліся 6 і 42 стр. дывізіі ў Брэсце і 49 стр. д. — у Высокаўскім раёне.

У Брэсцкай крэпасці на самай граніцы трымалі дзве стр. дывізіі, якім нават у мірных умовах патрабавалася шмат часу для таго, каб выйсці з гэтай крэпасці і разгарнуцца для ваенных аперацый. Акрамя таго, нягледзячы на сігнал ваеннай небяспекі, камандны склад жыў у горадзе на кватэрах. Натуральна, пры першых стрэлах сярод чырвонаармейцаў усчалася паніка, а магутны шквал агню нямецкай артылерыі хутка знішчыў абедзве дывізіі. Па расказах чырвонаармейцаў, якім удалося выратавацца, заслугоўвае ўвагі і такі факт, што не ўсе часці і злучэнні мелі патроны, не было патронаў у байцоў...

У выніку такога становішча з першых жа дзён ваенных дзеянняў у часцях 4 Арміі пачалася паніка. Можна было назіраць такую карціну, калі тысячы камандзіраў (пачынаючы ад маёраў і палкоўнікаў і канчаючы мал. камандзірамі) і байцоў кідаліся ўцякаць...

Абком і Гарком КП(б) разам з абл. упраўленнямі НКУС і НКДБ спрабавалі першы час навесці парадак у горадзе, але эфектыўна нічога зрабіць не змаглі, паколькі чырвонаармейскія часці ў паніцы адступалі. Таму, не ведаючы абстаноўкі, не маючы сувязі з ваенным камандаваннем, не разлічваючы на баяздольнасць воінскіх часцей, мы вымушаны былі пакінуць г. Брэст.

Абком КП(б)Б лічыць, што неабходна прыняць самыя тэрміновыя і рашучыя меры па навядзенні парадку ў 4 Арміі і ўмацаваць кіраўніцтва 4 Арміі.

Сакратар Брэсцкага абкома КП(б) Тупіцын.

*Заўвага. 4-я армія была сфарміравана ў жніўні 1939 года ў беларускай Асобай Ваеннай акрузе на базе Бабруйскай армейскай групы. З пачатку вайны армія ў складзе Заходняга фронту вяла абарончыя баі на Брэсцкім напрамку. 9 ліпеня 1941 года камандуючы арміяй А. А. Карабкоў быў арыштаваны і 22 ліпеня 1941 г. асуджаны да расстрэлу. У 1957 г. А. А. Карабкоў пасмяротна рэабілітаваны. — І. К.*

## БАЯВОЕ ДАНЯСЕННЕ ШТАБА

4-Й АРМІІ ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ N 06

23 чэрвеня 1941 г. 9.00

З 6.00 23.6.41 г. часці арміі перайшлі ў контратаку ў напрамку Відамлі і Брэста.

У выніку прадпрынятага праціўнікам сустрэчнага бою сіламі не менш 2 танкавых дывізій у напрамку Пружаны і сіламі да трох пяхотных дывізій з танкамі на Кобрын контрнаступленне арміі поспеху не мела...

Поспеху праціўніка асабліва садзейнічала несупынная падтрымка авіяцыі пры поўнай адсутнасці дзеяння авіяцыі з нашага боку...

Слабакіруемыя часці, напалоханыя несупыннымі атакамі з нізкіх вышынь і брыючага палёту ВВС праціўніка, адыходзяць без самых малых прычын...

Прашу! Настойліва прашу:

а) актывізаваць нашу авіяцыю на барацьбу з авіяцыяй праціўніка, затрымаць авіяцыяй прасоўванне танкаў на Пружаны і Картуз-Бяроза напрамку;

б) артсклад у Бона Гура праціўнікам узарваны, боепрыпасаў у часцях засталося мала, а транспарту для падвозу з Пінска недастаткова.



Камандуючы войскамі 4-й арміі генерал-маёр Карабкоў.

Член ваеннага савета дывізійны камісар Шлыкаў.

Начальнік штаба палкоўнік Сандалаў.

## СТАНОВІШЧА

НА ПІНСКІМ НАПРАМКУ

Паведамленне сакратара Лунінецкага райкома партыі Пінскай вобласці В. І. Анісімава.

Не пазней 30 чэрвеня 1941 г.

Лунінец. Брэст-Літоўскай чыгункі.

Ля апарата сакратар райкома партыі, член урада БССР Анісімаў.

Дакладваю некаторыя дадзеныя аб становішчы ў нас для даклада ўраду Саюза аб становішчы спраў на Пінскім напрамку.

Цяпер ад Драгічына да Лунінца і далей да Жыткавіч супраціўленне праціўніку аказваюць асобныя часці, а не нейкая арганізаваная армія. Штаб 4-й арміі пасля бамбардзіроўкі яго ў Кобрыне да гэтага часу не сабраны, а асобныя часці штаба шукаюць адзін аднаго. Месца знаходжання камандуючага арміі генерал-маёра Карабкова дагэтуль невядома, ніхто не кіруе расстаноўкай сіл, у выніку чаго на ўчастку чыгункі Баранавічы-Лунінец нашых войск няма. Лунінец з поўначы не прыкрыты, і немцы, якія праходзяць па шашы ад Баранавіч на Слуцк, зараз могуць бесперашкодна прыйсці ў Лунінец, што можа стварыць мяшок для ўсяго пінскага напрамку. У самім Лунінцы гарнізона амаль няма. Праведзеная ў нашым раёне мабілізацыя людзей і коней эфекту не дала. Людзі блукаюць без мэты, няма ўзбраення і снарадаў.

У горадзе поўна камандзіраў і чырвонаармейцаў з Брэста, Кобрына, якія не ведаюць, што ім рабіць, несупынна прасоўваюцца на машынах на Усход без усялякай каманды, бо ніякага старшага вайсковага камандзіра, які б мог камбінаваць дзеянні войск, няма.

У Пінску самі ў паніцы падарвалі артсклады і нафтабазы і аб'явілі, што іх бомбамі (відавочна, падарвалі. — І. К.), а начальнік гарнізона і абком партыі ўцяклі да нас у Лунінец, а потым, разабраўшыся, што гэта была проста паніка, вярнуліся ў Пінск, але боепрыпасы, гаручае прапалі, — і дыскрэдытавалі сябе ў вачах насельніцтва.

Прысылаюць самалёты ў разабраным выглядзе, а сабраць іх няма дзе. Іх будзем вяртаць назад.

Гэтыя факты падрываюць давер насельніцтва. Нам паказваюць нейкую невытлумачальную расхлябанасць. Усе патрабуюць тэрміновых мер, прызначэння камандуючага, стварэння штаба, значнага ўзмацнення ўзброеных сіл, узмацнення знішчальнай авіяцыі, бо цяпер бамбардзіроўшчыкі немцаў адчуваюць сябе беспакарана.

Звяртаюся да Вас, таму што і я, і Пінскі абком партыі з ЦК КПБ..."

*Заўвага. Далей тэкст абрываецца. Па сэнсе: "сувязі не маем". — І. К.*

## З ЗАГАДА

СТАЎКІ ВЯРХОЎНАГА ГАЛОЎНАГА КАМАНДАВАННЯ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ N 270

16 жніўня 1941 г.

ЗАГАДВАЮ:

1. Камандзіраў і палітработнікаў, якія ў час бою зрываюць з сябе знакі адрознення і дэзерціруюць у тыл ці здаюцца ў палон ворагу, лічыць злоснымі дэзерцірамі, сем'і якіх падлягаюць арышту, як сем'і дэзерціраў, якія парушылі прысягу і здрадзілі сваёй Радзіме.

Абавязаць усіх вышэйстаячых камандзіраў і камісараў расстрэльваць на месцы падобных дэзерціраў з начсаставу.

2. Трапіўшым у акружэнне ворага часцям і падраздзяленням самаадданa змагацца да апошняй магчымасці, берагчы матэрыяльную частку як зрэнку вока, прабірацца да сваіх па тылах варожых войск, наносячы паражэнне фашысцкім сабакам.

Абавязаць кожнага ваеннаслужачага незалежна да яго службовага становішча патрабаваць ад вышэйстаячага начальніка, калі часць яго знаходзіцца ў акружэнні, змагацца да апошняй магчымасці, каб прабіцца да сваіх, і калі такі начальнік альбо частка чырвонаармейцаў замест арганізацыі адпору ворагу аддадуць перавагі палону — знішчаць іх усімі сродкамі, як наземнымі, так і паветранымі, а сем'і чырвонаармейцаў, якія здаліся ў палон, пазбаўляць дзяржаўнай дапамогі.

3. Абавязаць камандзіраў і камісараў дывізій без прамаруджання здымаць з пастоў камандзіраў батальёнаў і палкоў, якія хаваюцца ў час бою і баяцца кіраваць ходам бою на полі бітвы, зніжаць іх па пасадзе, як самазванцаў, пераводзіць у радавыя, а пры неабходнасці расстрэльваць на месцы, ставячы на іх месца смелых і мужных людзей з малодшага начсаставу або з чырвонаармейцаў, якія вызначыліся.

Старшыня Дзяржаўнага Камітэта Абароны І. Сталін.

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПАМЯЦІ НЯЗГАСНАЙ ПОДЫХ

**Жлобін — адзін з нямногіх раённых цэнтраў нашай дзяржавы, дзе рэгулярна выходзяць кнігі. Гэтым разам пабачыў свет зборнік аб святкаванні 50-годдзя з дня вызвалення Жлобіншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў "З думамі чыстымі, з добраю воляй" (каб з'явілася гэтая патрэбная і арыгінальная кніга, парупіліся выканкомы гарадскога і раённага Саветаў дэпутатаў, рэдакцыя раённай газеты "Новы дзень", Жлобінскі гісторыка-краязнаўчы музей). Адкрываецца кніга шматлікімі віншаваннямі, змешчаны вершы "Дзе пеніць зямінная замець" А. Капусціна і "Вуліца міру" А. Зэкава, партрэты ганаровых грамадзян Жлобіна А. Капусціна, П. Масіка, І. Хіжняка, Ф. Пічугіна і кароткія біяграфічныя звесткі пра іх.**

**Пад рубрыкай "Яны вызвалялі Жлобіншчыну" расказваецца пра капітана Ф. Баталава, генерал-лейтэнанта Л. Пятроўскага, лейтэнанта М. Жуйкова, старшага сяржанта П. Мазіліна і іншых.**

**Шырока прадстаўлены матэрыялы, што даюць адчуць усю ўрачыстасць таго моманту, калі паўвекавы юбілей вызвалення стаў святам са слязьмі на вачах. Сярод выступленняў, якія гучалі на цэнтральнай плошчы Жлобіна тым днём, прыводзяцца тэксты прамоў пісьменнікаў-землякоў А. Капусціна "Паслухай, таварыш і брат!" і У. Федасеенкі "Тут дзяліў усе прыгоды".**

## ПРЭМІІ ЧАСОПІСА "НЁМАН"

**Рэдакцыйны савет "Нёмана" адзначыў літаратурнымі прэміямі лепшыя творы, апублікаваныя на старонках часопіса ў 1994 годзе. Прэміі прысуджаны — У. Бутрамееву (за апавяданне "Гісторыя Каменскай бібліятэкі" і "Сакавіцкі снег"), І. Афанасьеву (за літаратурна-крытычны артыкул "Мелодыя абарванай струны"), А. Літвіну (за гісторыка-публіцыстычны нарыс "Беларуская Краёвая Абарона").**

## З АЎЦЮКОЎ У... МІНСК

**"Па дарозе ў Аўцюкі" — такую, крыху нечаканую назву мела творчая вечарына Васіля Ткачова, што прайшла ў Доме літаратара. Творчую справаздачу трымаў пісьменнік, які аднолькава плённа выступае ў самых розных жанрах. В. Ткачоў вядомы і як празаік, і як драматург, і як дзіцячы пісьменнік, і як нарысіст. Не чужыя яму таксама гумар і сатыра. У гэтым пераканаў і вечар, на якім жарты суседнічалі з самай сур'ёзнай гаворкай пра самае сур'ёзнае.**

**Пра В. Ткачова і яго творчасць гаварылі вядучы вечара сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін, У. Ліпскі, М. Чарняўскі, К. Жук, гомельскі літаратар В. Кіеня...**

## КНІЖКІ З БЕЛАРУСКАЙ НІЗКІ

**Акурат такую назву мела мерапрыемства, што прайшло ў Ганцавіцкім раёне. Ініцыятарам яго правядзення сталі Ганцавіцкая дзіцячая бібліятэка і раённы аддзел культуры. Была падрыхтавана цікавая кампазіцыя па кнігах для маленькіх — "Заўзятары" Алеся Пісьмянкова і "Ехаў Чыж у Парыж" Уладзіміра Марука, а яна паклала пачатак тыдню літаратуры для дзяцей.**

**На свята прыехалі самі аўтары. Ды не адны, а ўзялі з сабой знакамітага барда Алега Атаманава.**

**Першая сустрэча адбылася ў раённым Доме культуры, дзе сабраліся вучні з усяго раёна. Наведаліся госці і ў ганцавіцкую сярэднюю школу N1, а затым была паездка ў глыбінку — у Будчанскую сярэднюю школу. І там панавала атмасфера шчырасці, сардэчнасці, уладарыла чароўнае беларускае слова.**

**Н. К.**

*З ПОШТЫ АДДЗЕЛА КРЫТЫКІ*

# "АЗІЕВІЧЫ НЕ ЧЫТАЮЦЬ ВАШАЙ ГАЗЕТЫ"

Хачу падзякаваць за апавяданне Андрэя Федарэнкі "У гасцях", што ў нумары першым "ЛіМа". Я даўно сачу за творчасцю гэтага аўтара, ведаю яго са студэнцкіх гадоў, бо закончыў, як і А. Федарэнка, бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт у Мінску, а галоўнае — бачу ў маладым пісьменніку будучую славу і гонар беларускай прозы.

У сваім новым апавяданні А. Федарэнка раскрыў важную праблему — выбар жыццёвых шляхоў маладой інтэлігенцыяй. Мне добра вядомы такія людзі, як персанажы "У гасцях" — настаўнік, Азіевіч, Лена. Многія з маіх аднакурсніц і аднакурснікаў не сталі інтэлігентамі. Адны закінулі свае дыпломы і працуюць бог ведама дзе, зарабляюць як-небудзь на сябе і сям'ю. Іншыя павыходзілі замуж і заняты элементарнымі хатнімі клопатамі. Хто і працуе па атрыманай спецыяльнасці — не лічыць сваю справу галоўным жыццёвым клопатам з-за жабрацкай зарплаты. Пры гэтым мала чытаюць, не працуюць над сабой, актыўна не адстойваюць гуманізм, праўду, гонар, што лічу галоўнымі прыкметамі інтэлігента. Адным не дазваляе жабрацкі стан, калі штодзень выдумляеш, на чым зэканоміць колькі рублёў. Іншым, абыякавым, мо і не трэба праўды, гонару, сумлення. Дый ці такі ўжо вольны наш малады сучаснік у выбары шляхоў жыцця? Аб'ектыўны стан краіны, якая ў глыбокім эканамічным крызісе, не дае нам усіх магчымасцей.

Вось апавяданне "Бляха" з кнігі А. Федарэнкі "Смута". У гэтым творы дзяцюк Бляха гіне не таму, што ён кепскі ці добры, а таму, што так склалася, што злодзеі наехалі, што зіма, што сабакі... Вось і тут, у новым лімаўскім апавяданні, чытач нічога не парадзіць вясковаму настаўніку, які круціцца, як можа, працуе ў школе, даглядае агарод, шануе жонку, марыць аб моры. Толькі пашкадаваць небараку? Не, проза А. Федарэнкі не жаласлівая. Творы пісьменніка накіроўваюць чытача на ўчынкі, клічуць жыць справядліва і годна.

Што А. Федарэнка не даў свайму настаўніку імя — знаходка аўтара. Бо мы ўсе пазнаём у ім сябе! Вось у другім нумары "ЛіМа" на стар. 4 матэрыял пра такіх настаўнікаў "Чым жывеш, чалавек?" Што чытач пазнае сябе ў Азіевічу — не веру, "азіевічы" не чытаюць вашай газеты. Асабліва хачу звярнуць увагу на выразную мову А. Федарэнкі. Узважаныя словы і трапныя сказы, спагадлівая, даверлівая інтанацыя аповяду — усё гэта мне вельмі нагадвае прозу Антона Чэхава. У Федарэнкі не выкінеш ні аднаго слова, тут усё на месцы, кожнае слова "гаворыць", працуе на рэалістычны вобраз.

**Уладзімір СУХАПАР,**
**галоўны бібліёграф Брэсцкай абласной бібліятэкі**

# ГОРШАЯ КНІЖКА ГОДА?

Зусім нядаўна з'явілася ў кніжных крамах рэспублікі кніжка Паўла Савоські "Запіскі халасцяка". Не ведаю як каму, а яна мне зусім не спадабалася. Галоўны недахоп кніжкі ў тым, што аўтар, як мне здаецца, амаль поўнасцю не валодае роднай мовай. Яна ў яго сухая, нежывая, невыразная і да таго кепская, што проста дзіву даешся, як кніжка выйшла з друку. Прачытаеш іншы сказ, а то і фразу — і быццам хто калом па галаве заехаў. І такое амаль на кожнай старонцы!

Прызнаюся шчыра — больш пяці старонак за вечар адолець не магла. Калі чытала, то было такое адчуванне, быццам прадзіралася праз калючае кустоўе, якое бессаромна шкуматала адзенне і пакідала чырвоныя пісягі на целе...

Цяпер звернемся непасрэдна да твораў. Кніжка пачынаецца аповесцю "Запіскі халасцяка". Зазначу адразу, што аўтар у гадах, лічы заўтра на пенсію, вось і падумалася, што прачытаю штосьці цікавае. Ну хаця б пра таямнічае каханне. Але каханнем у аповесці і не пахне. Усё зведзена да прымітыўнай гісторыі "як у жыцці". Адсутнасць мовы і сюжэта загубілі аповесць на карані. Бо аўтар не разумее, што жыццё — не мастацтва: у жыцці бывае ланцуг падзей, але няма сюжэта. А сюжэт як развіццё мастацкай думкі праз вобразы патрабуе селекцыі матэрыялу, яго падначаленасці галоўнай думцы. Вось і атрымалася аўтабіяграфічная проза, крыху белетрызаваная. Яна нагадвае фактаграфію, без спробы выйсці на нейкія абагульненні, на сваю філасофію.

У пачатку аповесці галоўны герой, прыехаўшы з Чукоткі, цалуе ў трамваі прыгожую незнаёмку. Магчыма, што пасля паўночнай галадухі без жанчын такое магло і здарыцца. Але ж далейшы ход падзей развіваецца ў такім накірунку, што проста не хочацца чытаць. Ідзе просты пераказ падзей, а дзе ж каханне, якое ачышчае і акрыляе чалавека? Яго няма. Тое ж самае мы бачым і ў аповесці "Фіктыўны шлюб". Апавяданні напісаны крыху лепш, але і там столькі недахопаў, што проста не хапае ў мяне слоў, каб пра іх расказаць.

У свой час шаноўны спадар Савоська пабываў у розных мясцінах: і на Паўднёвым Урале, і ў Сібіры, трапіў нават і на далёкую Чукотку. Жыццёвы вопыт мае вялікі, а які з гэтага толк? Вазьміце дзеля прыкладу таго ж У. Арлова і А. Федарэнку. Школа — інстытут — рэдакцыя, а якія выдаюць цікавыя творы — не адарвацца!

Я добра разумею, што нашы вядомыя крытыкі заняты больш сур'ёзнымі справамі, але каб ім выпадкова трапіла ў рукі кніжка Паўла Савоські, то яны знайшлі б у ёй яшчэ больш недахопаў і агрэхаў. (Тут я маю на ўвазе нашых шаноўных В. Акудовіча, Г. Тычку і Т. Грамадчанку). І калі б у нас прысуджалася прэмія "За горшую кніжку года", то "Запіскі халасцяка" занялі б з вялікім адрывам першае месца...

Цяпер пісьменнікі нашай гаротнай Беларусі выйшлі ўрэшце з-пад ідэалагічна-камуністычнага прэса. Можна і патрэбна пісаць агульначалавечыя, высокамастацкія творы, каб заявіць пра сябе ў далёкім замежжы. У нас, дзякуй Богу, ёсць каму пісаць. У гэтым годзе я з вялікім задавальненнем прачытала першыя кніжкі М. Адамчыка "Забойства на калядаы" і Б. Пятровіча "Сон між пачвар". Маладыя, але ж як пішуць! З філасофска-прыгодніцка-фантастычным ухілам, многае заганяюць у падтэкст. А ў Паўла Савоські ўсё плоска, суха, кепска і невыразна. Я, напрыклад, упэўнена, што ён і сам не разумее, для чаго напісана ім апавяданне "Фонька". Яно пра жабрака, але ж у творы відавочна не хапае нейкае важнае думкі, нейкага падтэксту, каб чытач усё-ткі зразумеў — што ж хацеў сказаць аўтар людзям.

**Святлана ДАРАФЕЕВА**

*г. Віцебск*

# "ЧАБАРОВАЯ ПАЛЯНА"

Так назваў сваю першую кніжку Віктар Сабалеўскі. Яна напрыканцы леташняга года пабачыла свет у раённай друкарні гарадскога пасёлка Узда.

Кніжку адкрываюць вершы пра Беларусь, аб'яднаныя раздзелам "Гэта ўсё — мая Радзіма". Да яго можна дадаць яшчэ больш дзесятка твораў, якія паэт прысвяціў коласаўскім мясцінам.

У зборнік, які налічвае добрую сотню старонак, увайшло многае з таго, што друкавалася ў перыёдыцы. Для сваіх лірычных твораў Віктар Сабалеўскі стараецца знаходзіць трапныя вобразныя паэтычныя радок:

**Хутка, быццам на вячоркі,**
**Карагодзіць сталі зоркі,**
**Каб да раніцы гарэць.**

Амаль палову зборніка склалі сатырычныя і гумарыстычныя вершаваныя апавяданні, фельетоны, байкі-былі. Паэта хвалююць праблемы нашага сёння, і ён не можа не адгукнуцца на іх сваімі творамі: "Дзед Кастусь і "юбілейны" гусь", "У платформе і ў жыцці", "Прымакова доля", "Я зацягвалі драты", "Бульбяныя прыгоды", "Пра законы", "Як Света сваё шчасце шукала"... Яны напісаны з гумарам, з вострай сатырай. Праўда, падчас паэт збіваецца да простага пераказу падзей. Такое вершаванае апавяданне можна слова ў слова пераказаць мовай прозы, і твор ад гэтага амаль нічога не страціць. Аднак такія творы маюць права на літаратурнае жыццё. Яны надзённыя, выкрываюць заганы, якія маюць месца ў нашым грамадстве. Сатырычная і гумарыстычная паэзія знаходзіць свайго чытача, яе часта ўключаюць у свой рэпертуар самадзейныя артысты.

Мне думаецца, трапна сказаў пра творчасць Віктара Сабалеўскага пісьменнік Алесь Камароўскі ў сваім "Слове да чытача": "... прачытаўшы зборнік, зноў хочацца вярнуцца ў родныя наднёманскія краявіды..."

Віктар Сабалеўскі каторы год працуе намеснікам рэдактара ўздзенскай раённай газеты "Чырвоная зорка", узначальвае яе літаратурнае аб'яднанне "Нёманец". Яно за апошнія паўтара года выдала ўжо трэцюю кніжку сваіх твораў. На чарзе — выхад кніжкі прозы Васіля Гурскага.

**Алесь МАХНАЧ**

# КАБ НЕ ПЛАКАЛА КНІГАЎКА...

Як ні цяжка, а беларуская кніга ўсё ж торыць сабе дарогу не толькі ў дзяржаўных выдавецтвах, але і ў іншых структурах, якім дазволена займацца гэтай важнай справай. Сведчанне таму і з'яўленне ў Гомелі чарговага зборніка вершаў Міхася Башлакова "Слёзы кнігаўкі" (мастацкае афармленне і выданне Алеся Шэліпава). Кнігу склалі лепшыя творы, напісаныя паэтам за апошнія два гады. Іх няшмат — усяго трыццаць два, але ці не ўсе яны пазначаны роздумам пра тое, чым жывём мы сёння, што непакоіць нас на схіле дваццатага стагоддзя, калі над Бацькаўшчынай адчувальны гаркавы прысак Чарнобыля.

Два раздзелы ў кнізе. Першы — "Як слёзы горкія Айчыны...". У ім уражвае верш "Клаўдзія Лукінічна...", верш пра ахвяру абставін і не ў меншай (а нават і ў большай) ступені ахвяру сістэмы:

**Клаўдзія Лукінічна —**
**Тонкі цень ГУЛАГа...**
**З чым прыйшла да фінішу**
**Пад чырвоным сцягам...**

.......................................

**Лёс, як дым, хіснецца.**
**Плакаць слёз няма.**
**Выстудзіла сэрца**
**Лютая зіма.**

У гэтай споведзі і імкненне зразумець, чаму ж так здарылася, што, імкнучыся да лепшага, мы адыходзілі ад агульначалавечых ісцін дабра і справядлівасці, забывалі аб важнасці цвёрдых маральных прынцыпаў. Пра гэта такі невялікі верш:

**Памаўчы!**
**Не стагні...**
**Вінаваты мы самі,**
**Што крычалі:"Распні..."**
**І распнулі яго,**
**Гэты лад,**
**Гэты дзень,**
**І народ гэты самы...**
**А цяпер распінаць,**
**Распінаць нам**
**Каго?**

Вершы другога раздзела ("Засумую па родных мясцінах...") прывязаны да паэтавай "Малой Радзімы". Гэта і вяртанне ў маленства, і асэнсаванне месца чалавека на зямлі, і скрушнасць ад незваротнасці страт. Але ж гэта і аптымізм. Той, што гатовы нарадзіцца, як кажуць, праз слёзы. Бо гэта — слёзы ачышчэння, якія так патрэбны нам сёння. Мы ад многага адмаўляемся, мы многае спасцігаем занава. Мы імкнёмся да дасканаласці...

Зборнік адметны і тым, што выйшаў накладам... 25 экземпляраў. Атрымалі яго толькі шчаслівчыкі. Адно паэт паруп іўся, каб кніжка трапіла ў бібліятэкі.

**А. М.**

## З НЬЮ-ЙОРКА Ў КІЕЎ



**Юрый Шэфталь, украінскі прадпрымальнік, не змог адмовіцца ад радасці апусціцца на зямлю, каб пабыць сярод сваіх сяброў з Альтэрнатыўнага тэатра. Праўда-праўда. Натуральна, яго чакалі ў Мінску і сякія-такія празаічныя справы, але перадусім перавага была аддадзена спектаклю ды адпачынку... Юрый летась дапамог фінансаваць і арганізаваць гастролі Альтэрнатыўнага тэатра ў Кіеве, а таксама падтрымаў ідэю (па магчымасці) падобныя гастролі паўтарыць. Яшчэ ў Кіеве высветлілася, што Юрый даўно задумаў падтрымліваць які-небудзь варты мастацкі калектыў ("Лепей, каб там працавалі мае сябры", — удакладніў тады ён), а тым, як прайшлі гастролі Альтэрнатыўнага тэатра ў лістападзе месяцы 1994 года, ён проста ганарыцца. "Шмат маіх знаёмых ды сваякоў падзялілі маё ўражанні, — удакладніў Юрый. — Мы неяк прызвычаіліся ўжо, асвойталіся з тым, што ўсё вартае — у Маскве, ну, мо яшчэ ў Пецярбурзе... А кіеўскія тэатры, па-бальшыні сваёй, няшмат чым нас уражваюць да захапляюць — цяпер. А таго, што прывезлі беларускія альтэрнатыўнікі, Кіеў даўно не бачыў. Самым уразлівым сталася тое, што тэатр падчас гастроляў узяў удзел у фестывалі "Славянскія сустрэчы" і выйшаў пераможцам. Спектакль "Камедыя..." узнагародзілі гран-пры... Ды чым толькі яшчэ не ўзнагародзілі!.. Сур'ёзна паставіліся і да спектакля "Кароль паміраe", прынамсі, зала заўжды была паўнюткаю. Не схаваю, мне прыемна, што ўжо колькі месяцаў водгулле ад спаткання з маімі мінскімі сябрамі не прыціхваецца сярод маіх кіеўскіх сяброў, сярод партнёраў-прадпрымальнікаў. Ну а рэпліка Жыда Давідкі "Шалом, Дзёма, калі аддасі?" з "Камеды..." паўтараецца такой колькасцю ўдзячных гледачоў, што, пэўна, мусіць зрабіцца нашым прымаўкам". У сярэдзіне сакавіка Юрый Шэфталь ізноў наведае Мінск: гаворка пра супрацоўніцтва працягнецца.**

*На здымку: кіеўскі прадпрымальнік з сябрамі акцёрамі. Святлана Нікіфарава, Ігар Забара, Юрый Шэфталь і Мая Мартыненка.*

*Фота Віктара АМІНАВА*

## САЛІРАВАЛА МАНТСЭРАТ КАБАЛЬЕ...

**... А за пультам стаяў наш маэстра — галоўны дырыжор Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Аляксандр Анісімаў. Канцэрт славутай опернай "зоркі" Мантсэрат Кабалье, які адбываўся ў Маскве, мы маглі глядзець 8 сакавіка па тэлеканале "Астанкіна". Прымадонна выступала ў суправаджэнні расійскага аркестра, кіраваць якім быў запрошаны А. Анісімаў. Маэстра, дарэчы, зусім нядаўна правёў у Мінску вялікі філарманічны вечар за пультам сімфанічнага аркестра роднага ДАВТа: гучала "Карміна Бурана" К. Орфа, "Паэма экстаза" А. Скрабіна, у канцэртным абліччы паўставалі старонкі оперы Д. Шастаковіча "Кацярына Ізмайлава". І ўжо тут саліравалі "зоркі" беларускай опернай сцэны...**

## ТВОРЧАСЦЬ МАЛАДЫХ

**Мастацкая галерэя ў памяшканні музея Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесці працягвае знаёміць гледачоў з творчасцю маладых мастакоў. 7 сакавіка тут адкрылася выстава студэнтаў Акадэміі мастацтваў М. Аржанухінай, А. Кубрыкава, У. Мордзіна, І. Хруцкага, К. Шалашнікавай. Кожны з іх шукае свой шлях у мастацтве. Гэта іх першая выстава ў Мінску. Яна працягнецца да 20 сакавіка.**

Лаўрэаты-94

# НА ПАЛОТНАХ — СУЧАСНІК

На пасяджэнні Вучонай рады Беларускай акадэміі мастацтваў калегі цёпла павіншавалі загадчыка кафедры малюнка заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, дацэнта ТОЎСЦІКА Уладзіміра Адамавіча з нагоды прысуджэння яму Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Лепшыя творчыя сілы мастакоў, акцёраў і рэжысёраў, кінематаграфістаў краіны прадстаўлены сярод прафесарска-выкладчыцкага складу акадэміі, якая ў бягучым годзе будзе святкаваць сваё 50-годдзе. Уладзімір Тоўсцік скончыў нашу адзіную вышэйшую мастацкую навучальную ўстанову ў 1972 г., затым павышаў сваё майстэрства ў Бакінскіх акадэмічных майстэрнях яе стыпендыят Усесаюзнай акадэміі мастацтваў пад кіраўніцтвам выдатнага жывапісца, акадэміка Н. Г. Абдулаева.

З 1976 і па сённяшні дзень У. Тоўсцік звязвае свой лёс з Беларускай акадэміяй мастацтваў. Пачынаў выкладчыкам, цяпер узначальвае кафедру малюнка. Ён цвёрда адстойвае прынцыпы рэалістычнай акадэмічнай мастацкай школы як неабходнага падмурка маладога мастака ў далейшых творчых пошуках. Ва ўмовах "сціплага" бюджэтнага фінансавання культуры, калі зарплата выкладчыка не можа забяспечыць самых элементарных жыццёвых патрэб, не ў кожнага таленавітага педагога-мастака хапае вытрымкі застацца на сваёй пасадзе.

І тым не менш кафедра У. Тоўсціка, і гэта трэба аднесці ў першую чаргу да аўтарытэту кіраўніка, не згубіла сваіх лепшых педагогаў: дацэнтаў А. Казлоўскага, В. Нямцова, В. Цюрына, запрошаны на выкладчыцкую працу маладыя таленавітыя мастакі В. Альшэўскі, В. Ганчарук, А. Ліцвіненка.

Творчасць У. Тоўсціка шырока вядомая на Беларусі і за яе межамі. У 1990 г. Кэмбрыджскім біяграфічным цэнтрам ён абраны чалавекам года. Яго працы экспанаваліся на выставах у Германіі, Грэцыі, Югаславіі, Фінляндыі, Швейцарыі, Ізраілі, Польшчы. Цыкл жывапісных палотнаў "Святло і цені" і трыпціх "Спадчына", за якія У. Тоўсцік атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь, добра вядомыя знаўцам і аматарам выяўленчага мастацтва, яны здабылі грамадскае прызнанне праз шэраг выстаў і мастацтвазнаўчых публікацый. Творы вызначаюцца актуальнасцю распрацоўкі праблем гістарычна-культурнага адраджэння і абуджэння нацыянальнай самасвядомасці, кампазіцыйна-пластычнымі пошукамі. А найперш яны прывабліваюць вобразамі сучасніка ў неадназначных, часам фантастычных абставінах, прымушаюць нас задумацца і шукаць адказы на пытанні, узнятыя мастаком.

**Леанід ДЗЯГІЛЕЎ,**
**прарэктар Беларускай акадэміі мастацтваў**



Тэатр

# СРОДКІ, КАБ АШЧАСЛІВІЦЬ ПУБЛІКУ

## "ВОЛЬНЫ ШЛЮБ" НА СЦЭНЕ АКАДЭМІЧНАГА РУСКАГА ТЭАТРА. АДНАРАЗОВАЯ СПРОБА ГЛЯДАЦКАГА АПЫТАННЯ

Што патрэбна для таго, каб моцна закахацца... у тэатр? "Відовішча... магія... свята на сцэне...", — такіх адказаў на маё пытанне была бальшыня.

— Ніколі не задумваўся над гэтым, — пачаў мужчына ў акулярах, — але ведаю дакладна, што каб паважаць сваё каханне, трэба ведаць, што каханка не прастытутка. А калі яна сама навязваецца мне, дык якое ж пасля гэтага каханне?.. Рэжысёр "Свабоднага шлюбу" сам падае-прадае мне свой твор. Тут увесь набор сродкаў шоу-паненкі — і ложак на палову сцэны, і кабарэтныя танцы, і спевы пад гітару, і нават віктарына, гэткае "поле цудаў" у рэспубліканскіх маштабах, — як і прапановы рэжысёра да гледачоў патанцаваць на сцэне. А чаго каштуе заклік да багатых напаіць усіх шампанскім?! Сучасны тэатр непазнавальна перабудаваўся? Падхапіў "подых часу"? Памятаеце, раней гаварылі: тэатр — храм, тэатр — трыбуна. А я вось паглядзеў спектакль, і ў мяне з'явілася новая фармулёўка: тэатр — гэта бардэль...

Гэтыя катэгарычныя меркаванні належаць не крытыкам.

А — проста гледачам, — як іх прынята называць. Спектакль "Вольны шлюб" па п'есе Дарыя Фо і Франкі Рамэ скіраваны на стварэнне найшчыльнейшага дачынення між публікай і акцёрамі. Гледачы трапляюць у сітуацыю, дзе яны самі могуць уплываць на дзеянне і браць у ім актыўны ўдзел! Таму гэты артыкул можна лічыць працягам спектакля, які паставіў на сцэне Акадэмічнага рускага тэатра рэжысёр Б. Луцэнка. У ім сабраны некаторыя думкі гледачоў, якімі яны падзяліліся са мной адразу пасля спектакля.

— Я буду памятаць гэты дзень усё жыццё. Ніколі яшчэ я не бачыла такога дзівосна прыгожага спектакля. Яго можна назваць спатканнем з маёй марай аб святочным тэатры (жанчына сярэдніх гадоў, доктар).

— Дзіўна... аб гледачах не забыліся. Згадзіцеся, гэта не часта здараецца ў нашых тэатрах. І мяне, безумоўна, гэта парадавала. Але рэжысёр так настойліва напамінаў аб сваей ідэі пасябраваць з публікай, што мяне гэта пачало нават раздражняць (жанчына ў чырвоным капелюшы).

— Я захацела шампанскага і ў Італію (гарэзлівая дзяўчына).

— Нашы акцёры па тэмпераменце проста сапраўдныя італьянцы. Я забыўся нават на тое, што на вуліцы непагода... (Мужчына сталага веку).

— Гэта не тэатр (мужчына ў футры).

— Я ў захапленні (проста жанчына).

— Я зразумела, што ў спектаклі была вялікая колькасць розных жартаў. Але, ведаеце, гумар дзейнічае тады, калі ён не надакучлівы, калі смех узнікае непрыкметна, сам па сабе, а тут адразу бачна, дзе рэжысёр разлічыў на рэакцыю залы. Актрыса прабасіла, імітуючы голас сына, пра ягадзіцы, якія адвіслі і больш ніколі не падцягнуцца, альбо цяжка праскакала па сцэне — гэта як сігнал для ўсіх: тут трэба смяяцца. Увесь спектакль пабудаваны на гэтым. Атрымалася так, што кожны жарт тут — не вельмі высокай якасці пародыя на італьянскі гумар (дзяўчына ў джынсах).

— Я адпачыў на гэтым спектаклі (банкір).

— Рэч, вядома, не дрэнная (падлетак).

— Я не зразумеў, куды трапіў — у тэатр ці ў рэстаран. У праграмцы трэба было ўдакладніць (малады чалавек).

— Вельмі добры спектакль! Я пасмяялася ад душы над гэтымі мужчынамі-недарэкамі, асабліва калі яны ў канцы дзялілі агульнае дзіця (беспрацоўная).

— Усё навокал такое шэрае. А тут — святло, яркія колеры, музыка. Можа, тут і была выкарыстана залішняя колькасць сродкаў для "ашчасліўлення" публікі, але гэта ўжо не так важна, бо адразу бачна, што многім гэта падабаецца і прыносіць радасць. (Высокая жанчына).

— Сумна, што тэатр так актыўна камерцыялізуецца... (сталы мужчына).

— Акцёры, рэжысёр, мастак загульвалі, паддобрываліся разлашчваліся да публікі. Яны пастараліся, каб усё было даступна, зразумела, ярка, шумна. Атрымаўся гэтакі своеасаблівы спектакль-кіч (студэнт).

— Шкада, што ў нас вельмі мала такіх спектакляў. А то ўсе скардзяцца, што тэатры дрэнна наведваюцца! Я ўпэўнена, што гэта атрымліваецца толькі з-за таго, што рэжысёры не ўлоўліваюць псіхалогію гледачоў. Нас жа таксама трэба разумець і паважаць! Я думаю, што не памылюся, калі скажу: большасць засталася задаволенай гэтым спектаклем. Так?

Не ведаю. "Вольны шлюб" узялі на сцэне зусім нядаўна. Яго наканавана "браць" перад гледачамі яшчэ шмат разоў. І пакуль ён доўжыцца, у дыялогу паміж публікай і стваральнікамі ўсё больш пытанняў...

**Апытвала гледачоў**
**Наталля НІКАЛАЙЧЫК**



*На здымку: у ролях заняты Святлана Кузьміна і Аляксандр Бруxацкі.*

*Фота Аляксея МАЦЮША*

# СЛЫХ І ГОЛАС,

## альбо СТОЙКІ АЛАВЯНЫ САЛДАЦІК

***Нараджэнне музыкі яна параўноўвае з нараджэннем дзіцяці. І гэтая паралель — з уласнага вопыту: Марына Марозава не толькі прафесійная кампазітарка з кансерваторскай адукацыяй (іх на Беларусі — адзінкі...), але і мама двух абаяльных хлопчыкаў — Кірылы ды Арцёмкі.***

СПАЧАТКУ гэта неадольна-шчымлівы боль, які працінае наскрозь. Душа і цела пакутуюць ад нявыказанасці таго, што ўжо чуваць недзе ля сэрца, існуе, жыве... Пакрысе слых кампазіткі звыкаецца з характарам гатовага нарадзіцца матыву, мелодыі. Музыка гучыць, ды голас, біццё яе сэрца чуе спачатку толькі сама творца. Але светлая радасць — збылося! — перапаўняе душу, унутры ўсё напята шчасцем нараджэння новага жыцця.

І тады Марына звоніць па тэлефоне і голасам, поўным невыказнай пяшчоты і асалоды, прамаўляе: "Ма-а-ма-а..." А Яўгенія Канстанцінаўна ўжо даўно ведае **гэты** голас дачкі, які так дзіўна спалучаны ў ёй з такім цвёрдым, сапраўды мужчынскім характарам. Можа, гэтая цвёрдасць ад самой матулі, якой трэба было быць моцнай, каб выжыць, паставіць на ногі дачку?..

У МУЗЫЧНУЮ ШКОЛУ дзяўчынку браць не хацелі: у яе "разыходзіўся" слых з голасам. Дакладней, голасу ў музычным сэнсе ў яе зусім не было. Марына ўжо не памятае, што тады дапамагло. Магчыма, яе проста папрасілі ніколі не спяваць — толькі фартэпіяна. А можа, падзейнічаў аўтарытэт дзядулі, цудоўнага спевака-самавука, ці бацькі, які па слыху граў на розных інструментах. Ці настойлівасць маці, якая хацела бачыць дачку толькі кампазітаркай...

Інструмента ў маленькай піяністкі не было. Часта яны разам з дзядулем хадзілі ў мясцовы касцёл, дзе ў паўзмроку за шырмай стаяла старэнькае піяніна. Па вечарах ёй дапамагала бабуля, дазваляючы Марыне раскладваць кардонную клавіятуру на швейнай машыне — і займацца. Гэтаксама, бязгучна, "іграла" яна і на школьных уроках: на вечку парты. Гукаў музыкі тае ніхто, акрамя самой дзяўчынкі, не чуў, і настаўнікі звычайна не пярэчылі такім бяскрыўдным забавам.

"Голас" яе музыкі доўга не знаходзіў выйсця! Праз такія заняткі з кардоннай клавіятурай, напэўна, і развіўся ў Марыны Марозавай дасканалы ўнутраны слых. Яна і цяпер чуе і запісвае музыку пераважна без "фано". З дзяцінства парывалася "спяваць сваім голасам" — не толькі чужое выконваць. Яна малявала музыкай мелодыі асенняга дажджу ў правінцыйным Дзяржынску, малявала стомленую, але ласкавую маму, якая наведвала дачушку па выхадных. У яе музычных фантазіях жылі бабуля ды дзядуля, іх старэнькі дамок, ейная ўлюбёная лялька, што ціха плача-ўсхліпвае па начах без гаспадынькі, і веснавы ветрык з вестачкай пра блізкае цяпло...

Яе "не заўважылі" ні ў Дзяржынску, ні потым, пасля пераезду ў Мінск. "Не адкрылі" талент у сталічным музвучылішчы імя М.Глінкі, дзе Марына скончыла тэарэтычнае аддзяленне. У кансерваторыю паступала двойчы... Яе адметнага голасу не чулі хоры іншых музыкантаў. Мэтры ад музыкі фанабэрліва абяцалі ёй незайздросную "кар'еру" музычнага кіраўніка ў дзіцячым садку...

І чым больш было гэтай глухасці, вакууму, непрызнання вакол — тым больш адчайна, дзёрзка рваўся знутры насуперак усяму яе голас. Марыне рабілася невыносна цяжка жыць толькі слыхам. Хацелася, жадалася да болю ў змазоленых на клавішах пальцах: быць пачутай.

ЦЯПЕР, калі так рэдка даводзіцца пабыць адной, Марына зноў пачынае цаніць свабоду адзіноты, яе філасофскую глыбіню і высокую гармонію. Неяк летам ім са старэйшым сынам, Кірылам, пашанцавала выступаць з канцэртамі перад клірыкамі ў Польшчы. Праўда, грала больш сама, і не толькі ўласныя творы, але і сыну перапала апладысментаў. Ды больш, чым апладысменты, натхняла Марыну пасля двухгадовага нянькання з меншанькім, Арцёмкам, тамтэйшая адзінота і цішыня, у якой надаралася часам пабыць. Яна заходзіла ў жытнёвае поле непадалёк ад кляштара, клалася на зямлю, глядзела ў нябёсы — і музыка сама пралівалася ў сэрца.

Таго гастрольнага запалу кампазітарцы хапіла, каб "дазбіраць" новай музыкі на цэлы аўтарскі вечар у сценах роднага ёй Беларускага педуніверсітэта (там яна працуе выкладчыцай). А сёлета М.Марозава рыхтуе чацвёрты свой вечар, і таксама са свежых твораў.

Ёй падабаецца балет. У ім музыка бярэ сабе ў дапамогу не толькі галасавыя звязкі — усё чалавечае цела. І пры гэтым творцы без слоў прамаўляюць усё, чым перапаўняюцца душы, нават тое, дзе й слова часам бездапаможнае.

Па-дзіцячы трапятала яе сэрца, калі пісала "Стойкага алавянага салдаціка" — балет па матывах казкі Андэрсена. Ён — не герой, не генерал, не прыгажун, гэты алавяны аднаногі салдацік. Больш таго, мне нават падалося, што ў Маршы алавянага салдаціка (адна з частак балета) гучаць ноткі не проста зухаватасці, але і бравурнасці, нейкай вайсковай прасталінейнасці, цвёрдаалавянасці. Але жыццёвая стойкасць, ды яшчэ высокае каханне, якое салдацік сустракае ў абліччы прынцэсы з цудоўнага кардоннага палаца, робяць яго ўсемагутным. А калі з'яўляецца чорт, то ў твор трывожна ўрываецца скрыгат металу, сыплюцца дысгарманічныя сугуччы. Ствараецца ўражанне, быццам чорт сапраўдны, не казачны — столькі цынізму, жорсткасці, разбуральнасці, здзеклівасці ў яго музычным вобразе.

Салдацік і прынцэса перамагаюць чорта (хоць і апынаюцца ў агні) сваім каханнем, сваёй стойкасцю. Музычная лінія іх кахання паступова бярэ верх над скрыгатаннем чортавай сілы. Светлая мелодыя перамагае ўсе спробы чорта разлучыць закаханых, якія разам згараюць у агні — і ўрэшце, у фінале гэты, здавалася б, магутны праціўнік ператвараецца ў карыкатурнага, маленькага чорціка-цацку.

У гэтым балеце ідэя хрысціянскай самаахвярнасці, стойкасці падчас цяжкіх выпрабаванняў, нават і смерцю, як і высокая ідэя непераможнасці сапраўднае любові, удала ўвасоблены моваю музыкі.

Тэма шчырага пачуцця, здольнага тварыць цуды, нязменна прысутнічае ў творах Марыны Марозавай. Тэма гэтая чуваць і ў дзіцячай оперы "Муха-цакатуха", дзе тонка перададзены дзеянні ды нюансы пачуццяў маленькіх герояў твора.

Вясёлая гасцінная муха, якая ўсіх шчодра частавала, вядома ж, заслугоўвае такога мужнага рыцара-абаронцу, як камарык. Ён мужна ўступае ў бойку з павуком — і перамагае. Прычым перамагае не проста крывасмока, але разам з ім і ўсё тое страшнае, што перашкаджае радавацца жыццю — як кузуркам, так, пэўна ж, і людзям.



*Марына Марозава з сынам Кірылам.*

Гэтая дзіцячая опера, як прызналася Марына, пісалася лёгка ("уступ адразу сам загучаў"), бо казка была для яе вядомая і любімая з дзяцінства. Опера набыла цікавую санатную форму (уступ, распрацоўка тэмаў, рэпрызы), у ёй ёсць свая драматургія, тонка выпісаны музычныя характарыстыкі герояў, якія нават маюць свае арыі. Твор склаўся ўсяго за два тыдні, натхнёна — і быў прызнаны: некаторы час гучаў на канцэртах дзіцячага абанемента ў зале філармоніі.

Блізкім для кампазіткі жанрам стаўся раманс — у ім таксама аснову складаюць глыбокія пачуцці, напружанасць эмоцый. Рамансы Марына Марозава стварае як на вершы рускіх, так і беларускіх паэтаў (створаны цыкл рамансаў на вершы Ніны Мацяш, "салонна" загучаў і Ніл Гілевіч). Рамансы Марыны — філіграннай работы, творы дзівосна напоўненыя пачуццямі і ў той жа час лаканічныя. Гэта, заўважу, найбольш вытанчаны з вакальных жанраў.

Няцяжка было на самым пачатку яе кампазітарскага шляху прадбачыць, што калі-небудзь яна возьмецца і за оперу — сапраўдную, не дзіцячую. Сёння адна з іх ужо ў рабоце.

НАСТАЎНІК Марыны Марозавай па кансерваторыі Яўген Глебаў упэўнены ў ейным таленце, і цёплыя словы пра свайго малодшага калегу ад гэтага скупаватага на ўхвалу чалавека многа значыць. Марозава была адной з нямногіх выпускніц Глебава: у яго больш выпускнікоў. Яўген Аляксандравіч звычайна не бярэ вучняў, якім "не дадзена" ад Бога. Пэўна ж, у Марыне Марозавай і сапраўды ёсць нешта ад стойкага алавянага салдаціка, калі здолела пераканаць прызнанага майстра ў сваім таленце, першай сярод яго выхаванцаў атрымаць званне дацэнта ды яшчэ такое прызнанне: "Разумная, таленавітая, мэтанакіраваная... Я толькі дапамагаў развіцца ў ёй прыроднаму, Божаму дару".

Часам здараецца, што жанчына як кампазітарка "памірае" пасля таго, як на яе абрынываюцца клопаты пра сям'ю, дзяцей. І калі "трое мужчын у доме: муж і два сыны" ледзьве не "знішчылі" ў Марыне кампазітара, дык яе мама першай заўважыла небяспеку і ўзяла частку сямейных клопатаў на свае плечы. Можа, і таму ўдзячная дачка з ёю першай дзеліцца радасцю нараджэння новых мелодый. А яшчэ — менавіта падчас свайго другога дэкрэтнага адпачынку Марына Марозава зрабіла шэраг тэарэтычных прац па музыцы, што дало ёй права прэтэндаваць на званне дацэнта.

Бытавыя клопаты, праблемы могуць стварацъ вакол чуйнага сэрца кампазітара непрабівальны кокан — і яно робіцца "як усе", творца ў чалавеку паціху згасае. Бывае і наадварот: менавіта неўладкаванасць (сямейная, жыццёвая...) агаляе нервы — і чалавек вырастае з кокана ўласнае звычайнасці. Але любы творца хоча быць пачутым!

А ці заўсёды "чуем" мы сімфанічную музыку нашых сучаснікаў? Я быў сведкам глухой пустэчы цудоўнае залы дзяржфілармоніі падчас апошняга з'езда кампазітараў Беларусі, дзе на працягу некалькіх вечароў выконваліся новыя творы. І часам колькасць музыкантаў на сцэне пераважала сціплую купку слухачоў, у асноўным знаёмых ды родзічаў тых, чыя музыка выконвалася. Мільённы горад такі глухі... Пра якое ж "паляпшэнне жыцця" можна марыць?..

Абыякавасць, нежаданне, няўменне людзей слухаць і чуць сімфанічную музыку — ці не водгук гэта тае сімвалічнай барацьбы, якую, памятаеце, у балеце Марыны Марозавай вядуць алавяны салдаіцк і чорт? Калі ў мелодыі жыцця мы развучваемся слухаць, адчуваць гармонію, чуем (і любім слухаць!..) толькі какафонію разладу — мы папаўняем шэрагі вояў чорта. Знайсці сёння нагоду парадавацца — тое ж, што навучыцца любіць: любіць жыццё, любіць людзей, што побач, любіць прыгажосць. Любіць цяжка! Прасцей усё ганіць і разбураць — але гэта шлях вояў чорта. Сімфанічная музыка навучае чалавека любіць, суперажываць, ствараць. Калі яна пранікае ў сэрца, то разам з ёю нам перадаецца і тая незнішчальная моц, якой быў абаронены ад чорта стойкі алавяны салдацік.

Без музыкі ў душы, без пачуцця гармоніі, пачуцця любові, пачуцця прыгожага — мы і ў прыватызаваных мурах застанёмся слабымі і безабароннымі.

ГЭТЫЯ НАТАТКІ — толькі маленькая спроба падтрымаць такіх, як Марына Марозава, "стойкіх алавяных салдацікаў" — па сутнасці, не пачутых намі пакуль што кампазітараў. Песеннікам — прасцей: іхнія творы ўсё ж гучаць на канцэртах і фэстах, па тэлебачанні і радыё. Сімфаністы ж не маюць магчымасці наняць аркестр, каб увасобіць у гук, "нарадзіць" у плоці сваю музыку. А значыць — фактычна не маюць голасу, каб выказацца.

З аднаго боку (у слухачоў) няма выхаванага, прызвычаенага да сучаснай сімфанічнай музыкі слыху. З другога (у кампазітараў) няма "голасу": адладжанай сістэмы папулярызацыі іх творчасці.

Як жа тады прарвацца на зямлю "Голасу Неба" — Музыцы?

Пытанне застаецца адкрытым. Праўда, у Марыны Марозавай з яе, паўтаруся, не пажаночы моцным характарам, кар'ера прафесійнага кампазітара складваецца больш-менш удала. Вось яе заўважылі і на тэлебачанні, распачалі здымкі музычнага фільма "Незакончаны раманс" пра творчасць М.Марозавай. Цікава складваецца супрацоўніцтва з вакальным трыо "Рамонак", з харэографам Віктарам Савіным з Мінскага універсітэта культуры і вакальна-харэаграфічным калектывам "Квецень", якім кіруе Валеры Полеў.

Слых па-ранейшаму не здраджвае ёй: Марына Марозава чуе сярод какафоніі сённяшніх спрэчак і дэбатаў, бясконцых грашова-харчовых клопатаў сапраўдную музыку. І хай дае Божа долю тым, хто чуе Музыку, самім быць пачутым. На сваёй Радзіме. У творчым росквіце. Не заўтра, не калісьці, а цяпер, бо кожная ўспрынятая ўдзячным слухачом мелодыя выкрасае ў натхнёным сэрцы кампазітара новыя і новыя.

Няўжо стойкаму алавянаму салдаціку трэба ўрэшце згарэць у творчым парыванні, каб сцвердзіць свой талент, сваю святую любоў да чароўнай прынцэсы — Музыкі?

**Іван ЖДАНОВІЧ**

## СВЯТА ЎСЯГО, ШТО ГУЧЫЦЬ ПА-ФРАНЦУЗСКУ

**Дзень французскай мовы ў Парыжы (магчыма, і па ўсёй Францыі) — заўважнае свята, своеасаблівае. Асацыяцыя выкладчыкаў французскай мовы ў Беларусі святкуе разам з усім франкагукавым (франкафонным)святам; сёлета да азначанага — 20 САКАВІКА — дня прымеркаваны яшчэ і семінар на базе Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. Дзякуючы пільнай увазе Пасольства Францыі, у Беларусі вырашаюцца сякія-такія праблемы выкладчыкаў і самога выкладання. Паспяхова выдадзена першая частка падручніка для школьнікаў, знанага "Трампаліна" (у яго ўваходзіць і методыка выкладання мовы): гэта перавыданне ў беларускіх умовах французскага арыгінала. Выдаецца дзіцячы часопіс "Жако" (цікаўны папугайчык, які заахвочвае дзяцей вывучаць не толькі мову, але і гісторыю, і культуру Францыі). Дарэчы, Поль Рамановіч, чалец ягонай рэдакцыйнай рады, аташэ па пытаннях адукацыі і дырэктар бюро па супрацоўніцтве ў галіне мовы і адукацыі французскага пасольства, заўважыў, што французскі бок меў на ўвазе зрабіць гэты часопіс франка-беларускім, аднак зацікаўленыя ў выданні фірмы збаяліся рынкавага ўціску і паспяшаліся адмовіцъ. Спадар Рамановіч ласкава прадэманстраваў мне зазнятае на стужку леташняе свята — у сценах Тэатра юнага гледача школьнікі паказвалі цэлыя спектаклі, драматычныя сцэнкі, маналогі і лялечнае прадстаўленне. Вяла рэй французская мова...**

**Яна ізноў павядзе рэй у сценах і на сцэне ТЮГа — ужо ў сярэдзіне траўня месяца, калі да сваіх выкладчыкаў далучыцца зацікаўленая дзятва (школы NN 148, 74, 20, сёлета абавязкова і 79) ды пакажа ўсё, над чым яна шчыравала цалюткі навучальны год. Самадзейны тэатр і вывучэнне мовы так шчыльна, так па-старасвецку (добрая старая часіна!) і так сучасна злучаюцца, перасякаюцца, каб у выніку высноваць простае і справядлівае для кожнай мовы і кожнай культуры: толькі з любоўю можна агораць і спраўдзіць самае цяжкае або неверагоднае. Як спраўджвае, дарэчы, студэнцкі тэатр Мінскага лінгвістычнага універсітэта, — ён вядомы, як Тэатр Шынкарова. Трыццаць тры гады выкладчык Валерый Шынкароў займаецца сваім тэатрам, "давёў" яго да лаўрэацкага звання, дваццаць гадоў ставіць сам, годна прадстаўляючы Беларусь, напрыклад, у Бельгіі, у рамках праграмы "Дзеці Чарнобыля".Мясцовыя — бельгійскія — газеты адзначалі "трыумфальны поспех". Пакуль што, праўда, сярод студэнтаў, але — франкамоўных! Ды што можа быць лепшым для зносін з героямі Мальера, Мюсэ, Заля, Лабіша, Ануя, Жыраду як не тэатр? А што — найлепшым, калі гэтыя зносіны — на мове арыгінала?**

**Магчыма, толькі праз замежную мову раптоўна далучаешся да вартасцей сваёй?..**

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

## ЦУД ДА 2 КРАСАВІКА

**Як і чым толькі ні адзначаюцца юбілеі, а вось няшмат хто можа адзначыць сваё пяцідзесяцігоддзе... "Звычайным цудам!" Праўда, для тэатра з назваю "Бай паморскі" гэта нібыта і натуральна, асабліва калі ўдакладніць, што п'еса Я. Шварца як мага прыдаецца нават да самога казачнага паморскага горада Торуні, дзе азначаны тэатр асталяваўся, і да тэатральнай, мовім так, спецыялізацыі — тэатр лялечны, і, як ні дзіўна, да юбілейных урачыстасцяў: у спектаклі прадугледжаны незвычайныя сцэнічныя эфекты. Для ўвасаблення звычайных тэатральных цудаў дырэктар "Баю паморскага" Чэслаў Сенька запрасіў пастаноўшчыкаў з Беларусі: рэжысураю мусіць займацца Аляксей Ляляўскі, сцэнаграфіяй — Аліна Фаміна, музычнымі дзівосамі — Уладзімір Кандрусевіч. Прэм'ера прызначана на 2 красавіка. "Звычайны цуд" не запозніцца...**

## САМАЯ ЁМІСТАЯ, САМАЯ ВАЖКАЯ

**З 5 па 12 сакавіка доўжылася "Панарама новага беларускага кіно" — бадай, самая ёмістая, самая важкая за апошнія пяць гадоў дэманстрацыя магутнасцяў, узроўняў ды магчымасцяў айчыннай кінавытворчасці. Іграныя, дакументальныя, анімацыйныя фільмы, а таксама студэнцкія работы прадстаўлялі гледачам у Доме афіцэраў і ў кінатэатры "Перамога". Падрабязныя звесткі пра гэтую імпрэзу "ЛіМ" падасць у бліжэйшых нумарах.**

**Генеральны спонсар "Панарамы"..." — Беларускі гандлёва-фінансавы саюз, спонсары — банк "Капітал" і "Форт нокс камп'ютэрс", генеральны прадзюсер — студыя "Тэле-Арс" Саюза кінематаграфістаў Беларусі.**

# БЫЎ ЧАС, БЫЎ МАЙ, БЫЛО МЯСТЭЧКА...

*(Пачатак на стар. 3)*

А Валодзька хі-ітры! Сам ціха сядзіць, а хлопцы яго з "ініцыятыўнай групы" — як быццам гэта партыя імі ўжо прыватызавана! — галоднымі кнурамі пруць да карыта ў прэзідыум. Але і мы не дурні!

— Я ат рабочых! — крычыць з месца такі Лайдакоў, у якога твар перакручаны ці ад гуты, ці ад мартэна, ці нават ад дыспансера.

— Ня нада нам празідзімумав эціх! Папрывыкалі, панімаіш...

— Правільна! — крычаць тут усім класам. То значыць — усім рабочым класам. — Ня нада!

Ну, давайце аднаго вядучага... Ну, кажуць, калі аднаго — тады нічога, тады ладна. І тут мая ультранацыяналістычная групоўка выстаўляе барадатага Мікалаевіча — не тое што "русскоязычного", а самага натуральнага маскаля! Валодзька з намеснікам трывожна пераглядаюцца — бо, як справы ў нашай незалежніцкай партыі з той нацыянальнай свядомасцю, не мне ім гаварыць! Як кругом — так і ў нас! І дурню ясна, за каго прагаласуюць!

— Трэба па-беларуску размаўляць, — бярэцца-такі ратаваць і пярэчыць сухенькі дзядок. — Шануйма родную мову...

— Камуністы толька таво і ждуць, штобы нас падзяліць, как нацыяналісты хацяць! — перабівае яго Лайдакоў.

— Ня нада... Я ат рабочых, — дадае ён крыху няпэўна. Таму што падскочыць-то падскочыў, нават другі раз падскочыў, а так нічога і не сказаў, хоць і вываліў запас цэлага жыцця. Але Бог з ім, бо справа вырашана! Мікалаевіч залазіць на сцэну, хукае ў мікрафон і абвяшчае разбор палётаў адкрытым.

— Ну, что же! — рыхтык Гарбачоў гаворыць вядучы. — Надо, наверное, гостям дать слово для разогрева, как?

— Так! — зноў крыкнулі дружна і зашыкалі на хлопца з Валодзькавай кампаніі, які нешта спрабаваў сказаць пра працэдуру і рэгламент — за што яго абазвалі адпаведна здраднікам, камуністам і наменклатурай... Які рэгламент?! То ж шырокі народны рух! Масы! Людзі ўжо да ручкі дайшлі, а яны са сваім рэгламентам, маць вашу!

А Валодзька злы сядзіць! Ну-ну, пасядзі-пасядзі — а мы сваім гуртком так і дамаўляліся, каб да галасавання дайсці не раней, чым дзевяць з дзесяці кангрэсменаў асалавеюць у дрыбадан!

Госці гаварылі паўдня і спадабаліся ўсім — тыя тым, а гэтыя гэтым. Таму што калі мае быць свабода дыскусій ды фракцый, то няхай будзе — такой бяды! Тутэйшы старэйшы таварыш ад прафсаюзаў пераконваў, як шмат сумленных камуністаў сярод простага народа, і выказаў цвёрдую веру, што разам мы адновім партыю — ніхто не пытаў, тую ці гэту, але білі дружныя бравы. Потым вылез нейкі гаспадзін з Санкт-Пецярбурга, "давний друг Антонина", як сам адрэкамендаваўся, і прачытаў лекцыю, як нам лепш усяго тую Расію запарадкаваць, угнаіць, перакапаць і асфальтам пакрыць! І тут мала не сапсаваў усю справу верны спадзвіжнік мой Колька Верабей.

— Алесь, — круціўся ён у крэсле, як вуж, — пры чым тут Расія?! Каго мы слухаем? Чарнасоценца?!

— Адчапіся! — казаў я. — Ты так хутка забыў, як рускія выглядаюць? Цвярозыя гавораць пра Расію, выпіўшыя — пра баб, п'яныя — пра службу і долю, а пра грошы ніхто ніколі!

Верабей сапеў і крактаў, а потым узляцеў і зачырыкаў.

— Спадарства! Гэта што — Паўночна-Заходні край?! А ну, каторыя маскалі — вон з хаты!

Тут счапілася ўся зала, пры гэтым частка "маіх" рабочых вельмі абуралася гэтай нацыяналістычнай выхадкай, а частка "Валодзькавых" інтэлігентаў вельмі ўзрушылася гэтым патрыятычным учынкам — усё перамяшалася, як у бітве пад Воршай!

Кангрэс ад заняпаду і трох падзелаў уратаваў Мікалаевіч. Калі дайшло да пытанняў "а ты хто такі?!", ён выпусціў на трыбуну самага казырнога госця — не з-за празрыстай, але з-за сапраўднай мяжы, дзе дагэтуль калючы дрот у чатыры рады! Сам спадар Сакрат Яновіч з які ўжо раз вызваленага Беластока, — цяпер яго вызваліла, здаецца, "Салідарнасць" ад камуністаў, — мініятуры свае непараўнальныя палез гаварыць пранікнёна. Адну расказаў, другую, лірычны настрой у зале стварыў і кажа:

— А п-палітычная партыя, якая не пхнецца да ўлады, дык то не партыя, а фальклорная група!

Абедзве крайнія фракцыі, а таксама цэнтр, левы цэнтр, "балота", "аўтанамісты" і незалежныя ўрэзалі авацыю. А прадажная бальшавіцкая прэса проста шалела! Пісакі схіліліся над блакнотамі і трэсліся над імі, як тыя салдацікі з Савецкай Арміі, якія на праглядзе праграмы "Время" бляхі на дзягах пастай ГОИ да парасячага бліску даводзяць... "Ага-а! — узрадаваўся я. — Гэта ж бясплатная рэклама! А загалоўкі, загалоўкі якія будуць! "Ария заезжего гостя", "С чужого голоса", "А о народе — забыли", "Страсти вокруг власти". "Памры, Маня, а лепей нагой не дрыгнеш!".

І на гэтай хвалі энтузіязму Мікалаевіч хуценька зрабіў перапынак — і партфелі прыйшла пара дзяліць, і публіка даволі праняла парцейным духам зафрахтаваную залу. Таму ўсіх пагналі ў буфет, дзе крыху адпачылі ды пагутарылі, як было сказана вышэй, даволі БАГАТА.

Пасля буфета атмасфера на Кангрэсе праяснілася так, што ажно лягчэй дыхалася — па-першае, пайшлі выступіўшыя госці ды назіральнікі па-за тымі, што адбывалі шарварку на службе, па-другое, у маім і Валодзькавым варыянтах Статута не было нічога пра камуністаў, наменклатуру і толькі ў канцы адзін радок пра мову. Так што падпускалі шпількі адны тэарэтыкі абедзвюх фракцый, шараговыя ж парцейцы галасавалі адпаведна сваім асабістым перакананням — раз за Валодзьку, другі за мяне.

Кангрэс працаваў, як добры калгас! Бацька на сцэне, тры брыгадзіры бегаюць па залі, лічаць галасы і будзяць каторага з кангрэсменаў, калі непарадак з кворумам, а збоку ў сакратарыяце сядзяць бухгалтаркі са спецыялістамі, чыркаюць сабе па праекце папраўкамі і глядзяць, каб выходзіла не менш, як сто адзін працэнт...

Але лодкі на Нёмане топяцца, як вядома, пасярэдзіне стрыжня, а кароўнікі ў калгасах валяцца, амаль выведзеныя пад страху! Так было і тут.

— Так, — сказаў Мікалаевіч. — "Пункт 4.11. Сябры партыі абавязкова прымаюць удзел у мерапрыемствах партыі". Ну, я думаю, про обязательность надо снять — это и так понятно...

— Супраць! — крыкнуў я. — То ж будзе не партыя, а фальклорная група!

— Алесь Фёдорович, — уздыхнуў мой барадаты прыяцель. — Не надо вносить деструктивный элемент по любому мелкому поводу, я вас очень прошу.

Гэта была наша лепшая камбінацыя, пся крэв! І скамбінавалі добра, таму што "ат рабочых" адразу закрычалі, каб я сеў і не дурыў галавы, а прыяцель адразу паставіў на галасаванне, а Валодзька, на маё здзіўленне, гэтую тонкую падлянку прапусціў — і яна прайшла! Але ўжо гаварылася, што чалавек пан толькі свайго сумлення, але не пан становішча, куды трапляе — і толькі я задаволіўся жыццём, як падняўся Валодзькаў прыяцель.

— Калі можна, маленечкае дапаўненне, — наіўнай лісой пачаў ён. — Э-э, так... "прымаюць удзел у мерапрыемствах партыі, калі гэта не супярэчыць іх перакананням".

І тут я зразумеў, чаго вартыя мазгі аднаго журналіста і аднаго інжынера, гэта значыць, Мікалаевіча і мае, у параўнанні з мазгамі двух навукоўцаў фундаментальнай навукі, гэта значыць, Валодзькі і прыяцеля. Смеху яны вартыя — вось чаго!

— Як вы збіраецеся нешта рабіць без дысцыпліны?! — узляцеў верны Верабей. — Гэта ж гаварыльня з анархіяй!

"Так прамазаць! Так прамазаць!" — кляў я сябе і бічаваў чорнымі думамі. А Валодзька расплыўся, як гусінае яйка — на ўсю патэльню! А па Вераб'ю лупілі з усіх бакоў, як з гарматаў! І такі ты, і сякі-разгэтакі, і новы ты бальшавік, і стары ты бюракрат... Хоць няшчасны Колька скончыў тутэйшы універсітэт і працаваў электрыкам на заводзе дробнапанельнага мантажу свінячых загарадак.

— Гэта абражае хрысціянскія пачуцці! — крычаў каталік Ваня.

— Ня нада! — гнуў Лайдакоў. — Мы ат рабочых проціў кацігарычаскі, штобы снова бяз нас рашалі!

— І не трэба людзей дурнымі выстаўляць! — вішчала мадам Слімакова неакрэсленага ўзросту, выгляду і занятку, як то і мае быць у парадачнай супердэмакратычнай партыі. — Людзі ў нас не дурныя, самі разбяруцца, што да чаго! Трэба быць разам, а не сварыцца!




*Малюнак Л.Разладава*

— І не глядзіце на мяне так! — крыкнула яна Вераб'ю ў вочы горкую праўду. — І я была камуністкай! А хто не быў?!

— Всё, блин! — не вытрымаў на сцэне спацелы Мікалаевіч. — Технический перерыв на пять минут!

У буфеце абедзве фракцыі ўжо займалі адна перад другой чаргу і без чаргі пускалі толькі сваіх — партыя, што тая кантора, на вачах калолася на ўпраўленні, аддзелы, бюро і сектары.

— Дубина ты! — павіншаваў мяне мой барадаты прыяцель. — Ну, что я тебе говорил?!

Ну што я мог сказаць? Гаварыць мне многа хто чаго гаварыў, але хто ў нас калі каго слухаў?!

Пасля перапынку шыхты яшчэ мацней пашчыльнелі, але патрэбная для рэгістрацыі ў міністэрстве юстыцыі "сотня" парцейцаў усё ж была. Перайшлі да рэштак — фінансавы бок, сімволіка, мова і гэтак далей. І завіхурыла зноў...

Як вы думаеце, адзін працэнт — гэта многа ці мала? О, адзін працэнт гэта страшна! Адзін працэнт ледзь усю партыю не разваліў — а быў гэта працэнт штомесячных складак ад заробку на патрэбы роднай партыі.

— Г-хм, — адразу ж убачыў несправядлівасць калега Лайдакова Толік Падгрыбіч. — То рабочым плаціць адзін працэнт, а як кааператарам?

— І кааператарам адзін, — патлумачыў Валодзька, які быў дакладчыкам. І трапіў у пастку!

— Ха-га!!! — ужо ўпэўнена сказаў Толік. — Так рабочых можна ў бухгалтэрыі праверыць, а я адкуль знаю кааператарскія заробкі?! Яны там што хочуць, тое робяць!

— А почему такое недоверие к своим партийным товарищам? — пакрыўджана спытаў Юрка-камерсант. — Почему чело-

век, который имеет собственное дело, обязательно жулик? Мы уже слышали это от коммунистов!

Валодзька, я, Мікалаевіч, Антанін і хто яшчэ быў пры памяці — збялелі на смерць! Таму што хоць Юрка пакуль што нічога такога для партыі не даў, але ж мог даць, праўда? А што было ўзяць з таго Толіка. Адзін няшчасны працэнт!

— Пры чым тут увогуле нейкія бухгалтарскія праверкі? — кінуўся выпраўляць становішча Валодзька. — Сябра партыі дакляруе свае заробкі і плоціць па факту — і ўсё!

— А калі не дакляруе? — не адступаў Толік, дэманструючы слушнасць навукі Маркса-Энгельса-Леніна і ўсіх астатніх, што пралетарый у буржуя ўсе кішэні нюхам чуе.

— Ды гэта ўвогуле абраза хрысціянскіх пачуццяў, калі за свае перакананні чалавека абавязваюць яшчэ грошы плаціць! — крыкнуў зноў Ваня-каталік, крыху змяняючы напрамак дыскусіі.

— Ды ў партыю ж нікога не заганяюць! — ледзь не заплакалі хорам мы з Валодзькам, бо цэлы хляўчук ужо хістаўся, як трактарыст на вяселлі. — У партыю ж ідуць, калі згодныя са Статутам ды са статутнымі абавязкамі! А калі не — дык не ідуць!

— А-а! — аж падскочыла Слімакова. — Дык вы ўжо людзей разганяеце, гнілая інтэлігенцыя?! Напляваць вам на просты народ, толькі пра сябе думаеце!

І тут, як кажуць, даў коксу ціхі хлопец, які ціха прасядзеў цэлы дзень, але напярэдадні абараніў кандыдацкую дысертацыю. Цэлы дзень ён сядзеў і слухаў — і нарэшце выдаў для прэсы! А тая прэса зноў аж застракатала ў блакнотах, бо філосаф выдаў для яе вось што:

— А я не разумею, як гэта ў адной партыі і камерсанты, і рабочыя, і служачыя, і інтэлігентная публіка?! То ж не партыя, а фальклорная група! — і ён са здзекам паглядзеў ... на мяне, бо Яновіч ужо пайшоў. Спадар Сакрат меў нейкія гаспадарчыя прапановы да нашага местачковага начальства.

— Так, перерыв! — сказаў змоклы Мікалаевіч. — Не дам я вам слова! — крыкнуў ён камусьці праз залу. — Перерыв!

Дзякуй табе, буфеце! У перапынку знайшлі кампраміс: Юрка-камерсант разабраўся з Толікам Падгрыбічам наконт яго кваліфікацыі і прапанаваў у сваёй фірме ў чатыры разы вышэйшы заробак, а таму пасля перапынку ўсе дружна прагаласавалі, каб сябры партыі плацілі не роўна адзін працэнт, але НЕ МЕНШ аднаго працэнта! Тым самым партыя пацвердзіла сваю прыхільнасць да сацыяльнай справядлівасці і роўнасці ў багацці. Кандыдат навук і Ваня-каталік устрымаліся.

Але рана радаваліся мы з Валодзькам, ужо амаль пагоджаныя бегам абставінаў! За сімволіку, што праўда, кангрэсмены не сварыліся, нават мовы не зачапілі, хоць па тварах прысутных было відаць, дзе ім тая мова... Зрэшты, хіба толькі таму і не зачапілі. Але як дайшло да назвы партыі!.. І сацыялісты знайшліся, і нацыяналісты, і лібералы, і канстытуцыяналісты, і Бог адзін ведае, хто яшчэ! А калі ўжо ад крыку заходзіцца і сінець пачалі, дык Юрка-камерсант раптам палез па церневы вянок тэарэтыка і прапанаваў назву "дэмакратычна-унітарная", яднаючы тым самым усе напрамкі — галасавалі аднагалосна. Але і гэта не ўсё! У апошні момант кандыдат навук прапанаваў тое "адраджэнне", на якое камуністы ўсіх здохлых сабак і катоў паначаплялі, паднавіць свежым "абнаўленнем", бо сутнасць тая ж, і прыпісаць у зад! І паднавілі, і прагаласавалі, і прыпісалі...

І калі ўжо прыпісалі, толькі тады мы з Валодзькам шчыра паглядзелі адзін другому ў вочы ды ўсё даравалі. Таму што вось які ў калектыўнага партыйнага розума атрымаўся кампраміс: Дэмакратычна-Унітарная Партыя Абнаўлення. Скарочана — ДУПА.

— Спасибо, — сказаў Мікалаевіч. — Теперь сделаем перерыв, чтобы считающие себя членами ДУПЫ заполнили партийные анкеты и смогли приступить к выборам координирующих органов...

Пагром быў поўны! Чацвёрты такі за ўсю гісторыю Беларусі пасля Грунвальда, Воршы і вяселля Рэні Бічалёвай у падлідскіх Біскупцах, калі ад таго, што было ў хаце, засталося паўпечы, бо астатні рыштунак і палову цэглы разабралі на мардабойны інструмент.

Нашы лепшыя сілы інтэлігенцыі Наднямоння казламі скакалі праз крэслы, прабіваючыся да дзвярэй. Наперадзе беглі тыя, хто моцна выступаў у спрэчках. У разбітай залі засталося чалавек дваццаць пяць... Верабей, Антанін, Толік, я, Валодзька і купка другіх нязломных змагароў за ідэю ціха перакурвалі, як рэшткі разбітай харугвы панцырных гусараў, знянацку абстралянай чацвёркай расійскіх штурмавікоў СУ-27. Толькі адзін Мікалаевіч не згубіў галавы.

— Так всё же нормально! — сказаў ён, прагледзеўшы дакументы. — Записалось тридцать два человека, а нам всего-то и нужны, блин, четыре секретаря, семеро в Раду да трое в ревизионную комиссию. Конгресс продолжается!

Агонія была нядоўгай. На Валодзьку я спіхнуў арганізацыйны сектар, у адказ ён на мяне — інфармацыйны. На фінансы знайшоўся нават прафесійны бухгалтар, улік з кантролем па камсамольскай традыцыі і звычцы звалілі на бабу, рэвізіяністамі дзеля сацыяльнага партнёрства прызначылі рабочых, а ў Раду выбралі камерсантаў — тыя сядзелі не ў адным праўленні не аднаго падазронага фонду, так што справа была знаёмая. Адным словам, народ падабраўся салідны, можна сказаць — з душой.

Наш новы сакратар Валодзька, — а выйшаў ён з Кангрэса вялікім чалавекам, як усё роўна Антановіч ці Суслаў! — выйшаў на свежае паветра сіні.

— Ты чаго? — спытаў я.

— Алесь, — прастагнаў ён, — які здзек! Дупа, дурная дупа...

— Нічога, — супакоіў я. — Нават у Гродне мала хто памятае, што гэта па-польску азначае. Ды і партыя мы ж не польская, а беларуская!

Мне добра было смяяцца! Мне ж трэба было толькі інфармацыю пра дупу па свету паразносіць, а Валодзька меўся да яе новыя маладыя кадры пазапіхваць!

Як ні цяжка было маладой партыі, але з кожным днём наша ДУПА расла. У нас завялася нават штаб-кватэра, дзе стаяў чамусьці чорны раяль і два дзесяткі жалезных крэслаў. Наязджалі нейкія эмігранты адтуль і дэмакраты з суседніх мястэчак параўнаць ідэйныя прынцыпы ДУПЫ са сваімі, прыходзілі контрразведчыкі і для маскіроўкі апошнімі словамі мацюкалі камуністаў, не бракавала і звычайных местачковых псіхічна хворых. Гэтых прымалі таксама — дзеля мін'юста.

Радыкальнае і ліберальнае скрыдлы ДУПЫ падспудна варагавалі. Спачатку верх узялі лібералы і праз сваю местачковую дэпутацкую групу, якая кармілася пры сапраўдным местачковым начальстве, заказалі мітынг пратэсту супраць пустых крамаў і высокіх цэнаў — і гэта восенню дзевяностага года, во псіхі! Цяпер бы тыя цэны...

Дабіліся яны свайго легальным шляхам, як жа ж! Адвялі ім пляцоўку, дзе гаспадары звычайна сабак выгульваюць, альбо Новы Парк, а метэаслужба абласная заказала дробненькі дожджык і змачыла тыя тры сотні пратэстантаў, калі лічыць разам з сабакамі і гаспадарамі, ушчэнт! Пасля гэтага ліберальнае скрыдла ДУПЫ магло спакойна склейваць ласты. Што яно і зрабіла.

Надышоў час радыкалаў.

Працавіты Валодзька да той пары радыкалізаваўся так, што наступны мітынг рыхтаваў сам. Напярэдадні цэлае мястэчка было заляпана аграмаднымі паперынамі, дзе аграмаднымі літарамі паведамляліся месца, час і змест. Змест быў просты, ясны і зразумелы кожнаму памяркоўнаму рабочаму чалавеку, без усялякіх там нацыяналістычна-ліберальных штучак!

"1. О снабжении продуктами.

2. О смене власти..."

І як улады местачковыя ні бегалі, што на сесіі ні крычалі, чаго толькі ні рабілі — а пры азначаным часе плошча Леніна была бітком набіта людзьмі, тысячаў дзесяць! Нічога не відаць — толькі медная галава ў кепцы тырчыць! А пад апладысменты публікі міма нашай вечна нейтральнай міліцыі праехаў радыёфургон, расцягнулі кабель — і пачалася другая местачковая рэвалюцыя! А патрабавалі местачкоўцы адставіць і парламент, і ўрад, і Кебіча, і Дземянцея, і ўсіх разам! І каб народ сам сабой кіраваў, во! А што вы думалі?! Вось так, вось вам і ДУПА — на чатыры гады раней за нашага Сашку Лукашэнку і без яго ласкі!

Але ні разу так не было, каб на твой мёд не лезлі чужыя мухі! Як ні аберагалі ўжо нешматлікія сепаратысты сваю ДУПУ ад розных эмісараў са сталічнага мястэчка Мінска, як іх ні адганялі, але па ДУПЕ пайшлі расколіны — і аднойчы яна ляснула... Цяпер у мястэчку ДУПЫ няма. Валодзьку выгналі з палітыкі следам за мной, Мікалаевічам, Антанінам, Толікам і другімі забастоўшчыкамі ды ветэранамі нацыянальна-вызваленчага руху. Але цяпер у нас ёсць Філія — і збіраюцца туды людзі з усіх філій усіх партый, якія на наша мястэчка Мінскам пастаўлены і размеркаваны.

Цяпер Мікалаевіч засноўвае газеты, якія чамусьці гараць адна за адной, Валодзька пасля нейкай цьмянай гісторыі з продажам партыі супрацьгазавых масак пайшоў назад да навукі, нехта спявае ў касцельным хоры, другі прадае сала, трэці проста жабруе каля царквы, а я вось сяджу, плачу ў машынку па сваіх да пары загінуўшых таварышах і прапіхваю ў Гісторыю іх імёны, як толькі магу. Цяжкая гэта праца, але некаму трэба.

Быў час, быў май, было мястэчка...

*1994, май*

З'ява

# І ВЫЦІНАЕМ... СПЕКТАКЛЬ

Рэжысёр Жугжда і драматург Кавалёў радзіліся пра будучы спектакль на маленечкай драматургавай кухні за кубкам кавы; прысутнічаць дазволена было толькі наравістаму і неверагодна пароднаму драматургаву кату разам са мною. Абмяркоўвалі "Піліпку-сынка". Сяргея ўражвала водгулле старажытных абрадаў ініцыяцыі (тлумачу знарок для беларускіх парламентарыяў — ініцыяцыя гэта не ініцыятыва, а дзеяслоў "ініцыіраваць" азначае зусім не тое, што маеце на ўвазе вы, шаноўныя), аблямаванае, аздобленае хрысціянскім пачуццём усеагульнай справядлівасці. Алега захапіў успамін пра бабулю, асабліва пра тое, як выразна яна падавала эпілог з вяртаннем Піліпкі-сынка: той прылятае да дзеда і бабы на гусіных крылцах, а яны бліны дзеляць...

У пастаноўку былі запрошаны, ніяк не іначай, прынцыпы ды тэхналогія тэатра ценяў. Мастацкім вырашэннем увогуле займалася Ларыса Мікіна; яны з Алегам ад пачатку аддалі перавагу нацыянальнаму віду — выцінанцы.

Прэм'еру "Піліпкі і ведзьмы" горад Магілёў зазнаў у леташнім снежні. Сорак пяць хвілін доўжацца дзіцячыя перажыванні. Іх прафесійна заахвочваюць Галіна Барысава, Ларыса Мікуліч, Наталля Суворава, Мікалай Сцешыц ды Уладзімір Тэвасян. Настрой аўдыторыі акцэнтуе музыка Паўла Кандрусевіча (яе запісвалі ў мінскай студыі "Скат"). Праўда, гэтую інфармацыю "ЛіМ" ужо збольшага падаваў адразу пасля прэм'еры, але з тэатра даслалі здымкі, і пачуццё таго, што магілёўскія лялечнікі стварылі нешта безумоўнае, вартае ўвагі ды заахвочвання, узмацнілася.

**Ж. Л.**



*На здымках: сцэны са спектакля; пра выцінанкі ды вядзьмарскія хітрыкі распавядае Ларыса Мікуліч.*

*Фота Алега Жугжды*

# ПЛАСТЫЧНАЯ АПЕРАЦЫЯ...

## З ДАПАМОГАЙ СЯРПА, МОЛАТА ДЫ КУХОННАГА НАЖА?

*(Пачатак на стар. 4)*

ка, створаная нават без слоў, калі за ёю ўжо замацаваўся пэўны вобразны стэрэатып: славуты "Вясельны марш" Ф.Мендэльсона доўгі час нясе ў сабе зусім канкрэтную інфармацыю, а "Мроі" Р.Шумана з вядомага цыкла дзіцячых фартэпіянных п'ес, у пералажэнні для хору, з чыёйсьці ласкі скарыстаныя ў якасці жалобнай музычнай застаўкі, ужо інакш, бадай, і не ўспрымаюцца. Хаця музыка-то мажорная.

Наіўна было б думаць, што й гімн "Мы, беларусы..." ад змены слоў страціць уласцівыя яму прыкметы пэўнай эпохі — эпохі ў гісторыі, эпохі ў музыцы, эпохі ў масавай свядомасці, калі хочаце.

Дарэчы, а чаму — "Мы, беларусы"? Ці задумаўся хто-ніхто з шаноўных апанентаў пра некарэктную абмежаванасць зместу гэтых слоў? Гімн дзяржавы мусіць спявацца сэрцам не толькі беларуса, мусіць быць гімнам для ўсіх людзей, якім Беларусь — радзіма і якія шануюць Бога. Так вядзецца ў цывілізаваным свеце...

Апошнім часам я, лімавец, назіраю, як пад гукі гімна "Магутны Божа" ў годным і шчырым парыванні ўзнімаюцца самыя розныя людзі і стоячы слухаюць спеў хору: ці тое адбываецца ў храме, ці ў канцэртнай зале. Сёй-той нягучна спявае разам з выканаўцамі. У грамадзян Беларусі ёсць свой духоўны гімн! У народа нашага, у зямлі беларускай даўно ёсць і агульнавядомы музычны сімвал — мелодыя песні У.Алоўнікава "Радзіма, мая дарагая". У дзяржавы такога афіцыйна зацверджанага сімвала пакуль няма. Па інерцыі гучыць старая мелодыя — бясслоўная палова колішняга гімна колішняй дзяржавы. Дык навошта гэтак упарта рабіць стаўку на спалавінены, нібыта паралічам разбіты, твор? З яго ўжо не скроіш паўнавартасны "музычны твар" старажытнай зямлі, на якой узнімаецца сучасная суверэнная дзяржава Беларусь.

**ЛІМАВЕЦ**

Замежжа

**Стаўшы на чале гэтай грамадскай арганізацыі, ён змог змяніць яе дзейнасць, пераарыентаваўшы сваіх паплечнікаў з унутрыпалітычнай барацьбы на аб'яднанне і супрацоўніцтва беларускіх суполак Амерыкі. БККА ў асобе спадара Завістовіча рэпрэзентуе беларусаў у "Кааліцыі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" — новым аб'яднанні этнічных груп Амерыкі. З ім гутарыць уласны карэспандэнт "ЛіМа" у Злучаных Штатах Леанід ПРАНЧАК.**

# "БЕЛАРУСЬ НЕ ПАВІННА ЎПУСЦІЦЬ СВОЙ ШАНЦ СТАЦЬ ВОЛЬНАЙ І НЕЗАЛЕЖНАЙ", —

ЛІЧЫЦЬ РАСЦІСЛАЎ ЗАВІСТОВІЧ — АДЗІН З АКТЫЎНЫХ ДЗЕЯЧАЎ БЕЛАРУСКАЙ ЭМІГРАЦЫІ, ЛІДЭР БЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСАВАГА КАМІТЭТА АМЕРЫКІ (БККА).

**— Спадар Завістовіч, вас добра ведаюць беларусы Амерыкі, а вось на Беларусі такая арганізацыя, як БККА, вядома мала каму. Не ведаюць нашы суродзічы і пра яе старшыню. Я прапаную ліквідаваць гэты прабел.**

— Давайце паспрабуем. Што да мяне — дык амаль усё сваё свядомае жыццё я, беларус, пражыў па-за Беларуссю. Пятнаццацігадовым хлапчуком падчас вайны разам з бацькамі быў вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Працаваў па 12 гадзін у суткі. Нямецкае пекла адчуў на ўласнай скуры. Пасля вайны застаўся на Захадзе. У 1950 годзе пераехаў у ЗША. Падчас вайны ў Карэі быў змабілізаваны ў амерыканскае войска, атрымаў там раненне. Прыняў амерыканскае грамадзянства, скончыў Ратгэрскі універсітэт і звыш 30 гадоў працаваў інжынерам і кіраўніком інжынернага аддзела на амерыканскім дзяржаўным прадпрыемстве. Быў арганізатарам стварэння першага беларускага праваслаўнага камітэта — заснавальніка царквы святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы, прадстаўніком БККА ў Вашынгтоне. Але з-за палітычных разыходжанняў з тадышнім старшынёй сп. Іванам Касяком вымушаны быў прыпыніць працу ў камітэце. У 1990 годзе пасля смерці Касяка быў выбраны старшынёй гэтай арганізацыі.

**— БККА — палітычная арганізацыя?**

— Так, бо яго галоўнай мэтай ёсць прапагандаванне ідэі незалежнасці Беларусі, уздзеянне на ўрад Злучаных Штатаў і яго беларускую палітыку, спрыянне ў наладжванні адносін паміж Амерыкай і Беларуссю.

**— Як у гэтых варунках вам бачыцца ваша асабістая роля?**

— Маё найвялікшае жаданне — стварыць умовы для паяднання беларускай эміграцыі тут, у Амерыцы. У цяперашніх умовах нам, беларусам, няма чаго дзяліць, паслабляць свае высілкі. Існуе ж ужо незалежная Беларусь. Дык чаму не аб'яднацца цяпер усім беларускім суполкам і ў першую чаргу сябрам Беларускага кангрэсавага камітэта і Беларуска-Амерыканскага задзіночання — другой шматлікай арганізацыі беларусаў Амерыкі?

**— Якія, на ваш погляд, асноўныя прычыны такога палітычнага падзелу беларускай эміграцыі?**

— Іх шмат. Вытокі гэтага амаль 50-гадовага канфлікту трэба шукаць у канцы 40-ых гадоў, калі на пасяджэнні Беларускай Цэнтральнай Рады было вырашана прыпыніць дзейнасць гэтай інстытуцыі ў сувязі з тым, што яе кіруючая роля закончылася з завяршэннем вайны. Аднак хутка высветлілася, што не ўсе сябры рады падзяляюць гэтую думку.

Адны з іх лічылі, што БЦР атрымала сваю легітымнасць падчас Другога Усебеларускага Кангрэса ў 1944 годзе і таму павінна заставацца носьбітам ідэалаў беларускай незалежнасці і надалей, нават у эміграцыі. Другая група сяброў БЦР вырашыла адмежавацца ад дзейнасці БЦР і аднавіць Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, якая бярэ свой пачатак ад Першага Усебеларускага Кангрэса ў 1917 годзе. Гэтая група вырашыла далучыцца да Міколы Абрамчыка, які, згодна тастаменту апошняга старшыні Рады БНР Васіля Захаркі, памёршага ў Празе ў 1943 годзе, пераняў пасаду старшыні. Так пачаўся разлад сярод эміграцыйнага палітычнага кіраўніцтва, які неўзабаве перакінуўся і на ўсю эміграцыю, падзяліўшы беларусаў на два варагуючыя паміж сабой лагеры. І гэта пры тым, што абедзве групы выступалі за незалежнасць Беларусі, за ідэалы, абвешчаныя 25 сакавіка 1918 года.

Вось з такім нецікавым "багажом" беларуская палітычная эміграцыя пачала выязджаць з лагераў перамешчаных асоб на сталае жыхарства ў Англію, Аргенціну, Аўстралію, Канаду. Найбольш беларусаў іміграваla ў ЗША. Лагерны палітычны падзел перакінуўся і ў новыя краіны перасялення беларусаў, дзе пачалі тварыцца дабрачынныя ці палітычныя арганізацыі.

Прыхільнікі БЦР у 1948 годзе заклалі ў Амерыцы Беларуска-Амерыканскі дапамаговы камітэт, а ў лютым 1951 года склікалі першы кангрэс беларусаў Амерыкі, дзе абралі Беларускі кангрэсавы камітэт. Прыхільнікі Рады БНР у сваю чаргу заснавалі Беларуска-Амерыканскае задзіночанне (БАЗА). Аднак гэтыя арганізацыі істотна адрозніваліся ад тых, што існавалі ў Нямеччыне. І БККА, і БАЗА былі зарэгістраваны як беларуска-амерыканскія арганізацыі. Гэтым падкрэслівалася, што ні адна, ні другая не належаць ні да якога эміграцыйнага ўрада. Наваствораныя арганізацыі распачалі шырокую культурную і палітычную працу. Пачалі выдавацца газеты і часопісы, закладацца беларускія цэрквы, арганізаваліся царкоўныя і свецкія хоры, аркестры, танцавальныя гурткі. Штогод урачыста адзначаліся беларускія нацыянальныя святы. На вялікі жаль, амаль усе палітычныя мерапрыемствы БККА і БАЗА праводзілі асобна. Святкаванні праходзілі звычайна ў фешэнебельных нью-йоркскіх гатэлях. У іх прымалі ўдзел прадстаўнікі ўрада і Кангрэса ЗША. Беларускія арганізацыі ў лепшым выпадку абменьваліся толькі прывітальнымі лістамі. У 1963 годзе была спроба наладзіць супольную акадэмію, але яна так і засталася спробай...

**— Няўжо пасля 1963 года беларускія дзеячы ў Амерыцы не прадпрымалі ніякіх захадаў, каб аб'яднацца?**

— Прадпрымалі, але без асаблівых поспехаў. Пераломам наступіў у 1992 годзе, калі арганізацыі БККА прынялі ўдзел у сустрэчы беларусаў паўночнай Амерыкі, якую ладзяць кожныя два гады БАЗА і Згуртаванне беларусаў Канады. Я выступаў там з прывітальным словам. Змены адбываюцца, і ў лепшы бок. Добра, што гэта разумее і кіраўніцтва БАЗА і БККА. У апошні час мы правялі некалькі супольных акцый. Напрыклад, віталі падчас прынясця ім прысягі амерыканскага амбасадара ў Беларусі сп. Кэнета Ялавіца, арганізавалі сустрэчу са спецыяльным дарадчыкам дзяржаўнага сакратара ЗША па справах новых незалежных дзяржаў сп. Джэймсам Калінсам, на якой заклікалі Дзяржаўны Дэпартамент актывізаваць дзейнасць камітэта развіцця амерыканска-беларускіх адносін, які быў створаны пасля візіту прэзідэнта Б. Клінтана ў Беларусь.

**— "Кааліцыя Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" — гэта нешта накшталт Амерыканскага камітэта, створанага ў 1951 годзе Дзяржэпартаментам ЗША?**

— Не, той Амерыканскі камітэт быў створаны для палітычнага і практычнага кіраўніцтва дзейнасцю паняволеных народаў СССР. А Кааліцыя паўстала ў зусім іншых палітычных умовах. Яе заснавалі прадстаўнікі амерыканскіх армян, балгараў, чэхаў і эстонцаў з мэтай дапамагчы сваім суродзічам у новых незалежных краінах колішняга СССР і краін Варшаўскага пакта, бараніць іх інтарэсы перад урадам Злучаных Штатаў, садзейнічаць развіццю двухбаковых адносін.

Кааліцыя лічыць, што ў эканамічнай і палітычнай дзейнасці Злучаныя Штаты Амерыкі павінны падтрымліваць незалежнасць і дэмакратычны лад навастворaных і дэкамунізаваных дзяржаў, рашуча адкідаючы вялікадзяржаўныя прэтэнзіі Расіі да былых саюзных рэспублік. Расійскія кіраўнікі з высокіх міжнародных трыбун адкрыта гавораць пра нейкія спецыяльныя правы, якія нібыта мае Расія, каб бараніць сваіх грамадзян у незалежных дзяржавах, створаных пасля развалу СССР. Кааліцыя выступае супроць такой палітыкі і такіх падыходаў. У знак пратэсту прадстаўнікі Кааліцыі адмовіліся прыняць удзел у афіцыйных мерапрыемствах падчас візіту Прэзідэнта Расіі Б. Ельцына ў ЗША.

**— Ельцын не пакрыўдзіўся?**

— Не ведаю, але Дзярждэпартамент прыняў наш жэст пад увагу. Дарэчы, пра гэта пісала амерыканская прэса.

**— Ці мае БККА рэальныя кантакты з Кангрэсам ЗША?**

— Безумоўна. Ёсць кангрэсмены, якіх беларусы заўсёды падтрымліваюць у час выбараў. Да прыкладу — Франк Палонэ. Ён неаднойчы прысутнічаў на беларускіх імпрэзах, заўсёды прыхільна ставіцца да нашых клопатаў, дапамагае ў вырашэнні надзённых праблем. Напярэдадні выбараў першага беларускага прэзідэнта БККА звярнуўся ў Камісію па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе пры Кангрэсе ЗША з просьбай паслаць назіральнікаў у Беларусь. Кангрэс прыслухаўся да нашай просьбы і накіраваў у Мінск сваіх прадстаўнікоў, якія пасля інфармавалі амерыканскі ўрад аб ходзе выбараў у Беларусі.

**— Вы як старшыня Беларускага кангрэсавага камітэта даволі часта бываеце ў Дзяржэпартаменце ЗША, і ў Белым доме. З прэзідэнтам Білам Клінтанам не даводзілася абмяркоўваць беларускія праблемы?**

— Мы абменьваемся з прэзідэнтам лістамі, у якіх абмяркоўваюцца амерыканска-беларускія дачыненні. Два гады таму, павіншаваўшы яго з выбарам на пасаду прэзідэнта, я пісаў, між іншым, што яго падтрымка Рэспублікі Беларусь у перыяд яе пераходу ад камунізму да дэмакратыі знойдзе шчырае прызнанне сярод амерыканцаў беларускага паходжання, якія жывуць у гэтай вялікай краіне. Я інфармаваў прэзідэнта таксама і аб тым, што Беларусь пацярпела найбольш, чым якія іншыя краіны, ад радыеактыўных ападкаў пасля чарнобыльскай бяды. Знайшоў водгук у Белым доме і наш ліст з падзякай за запросіны ў 1993 годзе сп. Станіслава Шушкевіча, тадышняга Старшыні Вярхоўнага Савета, наведаць ЗША. Прэзідэнт Клінтан, адказваючы на маю падзяку, пісаў: "У час нашага спаткання (са С. Шушкевічам, — Л. П.) я выказаў вялікае зацікаўленне з боку Злучных Штатаў у пашырэнні эканамічных сувязей з Беларуссю, асабліва ў развіцці гандлёвых і інвестыцыйных магчымасцей для амерыканскіх і беларускіх фірм. Спадзяюся, што ў хуткім часе нашы краіны падпішуць двухбаковыя пагадненні ў галіне інвестыцый, падаткаў і дзейнасці Корпуса Міру". Некаторыя з гэтых намераў амерыканскага прэзідэнта сталі рэальнасцю, іншыя — ў стадыі падрыхтоўкі. Амерыканскія беларусы ўдзячны Клінтану за яго ўвагу да Беларусі.

**— У гэтым плане беларускі бок на бацькаўшчыне такой цікавасці да вашай дзейнасці не праяўляе і ў БККА практычна няма стасункаў з дзяржаўнымі структурамі на Беларусі, так?**

— Так, і гэта для мяне крыху дзіўна. Хоць асабістыя кантакты з беларускімі дзеячамі я падтрымліваю: і з прадстаўнікамі БНР, і з прадстаўнікамі беларускага пасольства ў Вашынгтоне, іншымі дзелавымі людзьмі. Да прыкладу, напраканцы 1994 года я прымаў былога міністра замежных спраў Беларусі, арганізоўваў для яго некаторыя сустрэчы з прадстаўнікамі дзелавых колаў Вашынгтона. Пятро Краўчанка мае шмат цікавых задум і БККА, як дарэчы і БАЗА, аказвае яму падтрымку. Абы яго дзейнасць была на карысць Беларусі.

**— На заканчэнне хачу прапанаваць вам выказаць свой прагноз: як хутка, на вашу думку, можна чакаць афіцыйнага візіту ў ЗША Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі?**

— Прагнозы, скажу вам, няўдзячная справа. Нічога пэўнага я тут сказаць не магу. Калі вы пытаецеся пра маю думку, дык яна такая: усё будзе залежаць ад таго, як хутка адбудуцца ў Беларусі рэальныя зрухі ў эканоміцы і палітыцы, як хутка пераможа там вольны рынак і дэмакратыя, імкненне да свабоды і незалежнасці. Па тых вестках, якія даходзяць да нас з бацькаўшчыны, да жаданых змен яшчэ далёка. Беларусь не павінна ўпусціць свой шанц стаць вольнай і незалежнай. Іншага шанцу можа і не быць...

*Вашынгтон*

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара — *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі — *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі — *331-985*
літаратурнага жыцця — *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі — *332-204*
паэзіі і прозы — *332-204*
музыкі — *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання — *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — *332-462*
навін — *332-462*
мастацкага афармлення — *332-204*
фотакарэспандэнт — *332-462*
бухгалтэрыя — *268-640*



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11264.
Нумар падпісаны 9. 3.1995 г.
ЗАКАЗ 559
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12